ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ
ГАЗЕТА

# КУЛЬТУРА

№ 43 (356)
14 — 20 лістапада
1998 г.
КОШТ
4500 РУБЛЁЎ

Вялікае перасяленне Вялікага тэатра Стар.3

Палец Абдулава Стар.3

"Круглы стол" "К" — у Гродне Стар.7—10

Стар.6,11



Дыялогі з замежжам Стар.12—13

Трыяда ў імя Пушкіна Стар.14

Дык хто ж забіў Пэна? Стар.15

Нябёсы Жана Марэ Стар.16

**У які ўжо раз здзіўляюся дальнабачнасці вялікага Шэкспіра, які напісаў бессмяротныя творы "на ўсе часы і для ўсіх народаў". А ягоны сакраментальны выраз, што "ўвесь свет — тэатр, а людзі ў ім — акцёры" хіба не падыходзіць да сённяшняга культурнага жыцця Беларусі? Асабліва, да тэатральна-фестывальнага руху. Дзесяць дзён таму адышоў у гісторыю I фестываль творчай моладзі тэатраў драмы і лялек. І зноў зазіхацела яшчэ адна зорка ў сузор'і фестывальных сталіц — Бабруйск. Тут з 19 па 22 лістапада на сцэне Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі пройдзе фестываль нацыянальнай драматургіі, і гледачы ўбачаць спектаклі, пастаўленыя па п'есах В.Дуніна-Марцінкевіча, Е.Міровіча, А.Паповай, А.Дударава... З гэтай нагоды прапануем увазе чытачоў гутарку з галоўным рэдактарам аддзела тэатра Міністэрства культуры Вацлавам ВАЛАДЗЬКО.**

*— Сёлета тэатральная грамадскасць краіны была сведкай альбо ўдзельнікам шасці тэатральных фестываляў. Многія з іх ужо набылі сваю гісторыю, сталі традыцыйнымі. Але не нараджалася сярод традыцый тая, што павінна была б стаць у шэрагу іншых першай. Гаворка ідзе аб фестывалі нацыянальнай драматургіі, які ўсё ж такі прабіў сабе дарогу...*

**— Ідэя правядзення такога фестывалю ўзнікла далёка не сёння. Больш за тое, у свой час яна нават была ажыццёўлена, але замацавання, на вялікі жаль, не атрымала.**

**Адбылося гэта ў тыя часы, калі паняцці "нацыянальны тэатр", "нацыянальнае адраджэнне" пажадана было не ўжываць. Фестываль нацыянальнай драматургіі нарадзіўся ў 1986 годзе на базе тэатра імя Я.Коласа і называўся**

*Дык як адбіраліся спектаклі да гэтага фестывалю?*

**— Для адбору пастановак Аргкамітэт стварыў невялікую экспертную групу. Галоўным крытэрыем пры адборы, безумоўна, была якасць спектакляў. Думалі мы і аб тым, каб зняць папрокі, што возім з фестывалю на фестываль адны і тыя ж работы ці тэатры, што прадстаўляем пастаноўкі аднаго ці двух аўтараў. Рэпертуар складаўся і такім чынам, каб было цікава не толькі вузкаму колу спецыялістаў, але і шырокай публіцы. У выніку ў афішу ўвайшлі сем спектакляў, сцэнічны ўзрост якіх складаў не больш за 3 гады. На наш погляд, гэтыя пастаноўкі прадэманструюць асноўныя творчыя працэсы і тэндэнцыі, што адбываюцца зараз у тэатры і драматургіі. Спадзяюся, што фестывальныя паказы будуць жаданымі для гледачоў горада, бо выступленні ў Бабруйску сталічных тэатраў — з'ява даволі рэдкая. Ды і калегі тэатра імя В.Дуніна-Марцінкевіча з іншых абласцей бываюць у Бабруйску таксама не часта.**

**Рыхтаваўся для ўсіх і яшчэ адзін сюрпрыз — паказ п'есы беларускага драматурга С.Кавалёва "Змучаны д'ябал" у пастаноўцы Люблінскага драматычнага тэатра з Польшчы. На жаль, ён не адбудзецца з-за фінансавых праблем. Але, як кажуць, няма нічога незаменнага: у фестывальную афішу ўключана пастаноўка "коласаўцаў" "Марлен, Марлен..." па п'есе маладога беларускага драматурга Дзмітрыя Мінчонка. Дарэчы, ён не мінчук, а віцябчанін.**

*— А ці многа добрых пастановак па п'есах нашых аўтараў, што маглі б трапіць на фестываль, засталіся па-за ягоным "бортам"?*

**— На такое пытанне адказваць заўсёды цяжка, бо калі адказ станоўчы, адразу нібы ўзнікае канфліктная сітуацыя. Таму скажу так — гэты фестываль, трэба спадзявацца, не апошні. І калі б была пастаўлена задача сфармаваць са спектакляў, што засталіся па-за "бортам", яшчэ адзін фестываль, гэта зрабіць было б не цяжка.**

(Заканчэнне на стар. 2.)

# ГЕРАІНЯ ІМПРЭЗЫ — НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДРАМАТУРГІЯ



**"Беларускі тэатральны фестываль". Ставілася за мэту сабраць разам і паказаць грамадскасці лепшыя спектаклі па п'есах сучасных беларускіх аўтараў.**

**Фестываль прызналі няўдалым, а галоўным вінаўнікам усяго была аб'яўлена недасканалая драматургія. Мне, як аднаму з ініцыятараў гэтага мерапрыемства, моцна дасталося ад беларускай тэатральнай крытыкі і нават раскрытыкаваў мяне саюзны часопіс "Театральная жизнь". Ахоўнікі эталонных узораў савецкага тэатра так напужалі арганізатараў "Беларускага тэатральнага фестывалю", што на момант яго наступнага правядзення спектаклям па п'есах беларускіх аўтараў стала адводзіцца ўжо роля невялікага дадатку да асноўнага рэпертуару. Такая тэндэнцыя замацавалася на доўгія часы.**

**Але давайце вернемся ў наш час. Сёння фестываль нацыянальнай драматургіі на парозе свайго адраджэння. Гэта трэба вітаць і за гэта трэба дзякаваць, перш за ўсё, кіраўнікам Бабруйскага гарвыканкама, Магілёўскага аблвыканкама і тэатру імя В.Дуніна-Марцінкевіча, якія вельмі зацікаўлена і адказна паставіліся да ідэі яго правядзення.**

*— Сённяшняя тэатральная імпрэза праводзіцца напрыканцы года, пасля шэрагу тэатральных свят, якія адбыліся. Лепшыя спектаклі па творах беларускіх драматургаў ужо былі паказаны там.*

№ 43  14 — 20 лістапада 1998 г.

**Анкета "Культуры" напярэдадні XVI з'езда мастакоў Беларусі**

# ЧАГО ЧАКАЦЬ І ШТО РАБІЦЬ?

***24 — 26 лістапада адбудзецца XVI з'езд мастакоў Беларусі. Яго правядзенне супала з юбілейнай датай у культурным жыцці краіны — 60-годдзем утварэння Беларускага Саюза мастакоў (снежань 1938 года). Таму першы дзень з'езда будзе прысвечаны менавіта гэтаму ўрачыстаму святу, на якое запрошаны ўсе сябры творчай арганізацыі, пачынаючы ад ветэранаў Саюза "аксакалаў" і заканчваючы маладымі мастакамі "прызыву" 1997 года.***

***Напярэдадні з'езда газета "Культура" вырашыла наладзіць бліц-інтэрв'ю з некаторымі мастакамі розных творчых накірункаў і светапоглядаў. Мы папрасілі іх адказаць на тры пытанні:***

***1. Чаго вы чакаеце ад XVI з'езда мастакоў Беларусі?***

***2. Якія, на ваш погляд, перспектывы абнаўлення Беларускага Саюза мастакоў у новых сацыяльна-эканамічных умовах?***

***3. З якім кіраўніцтвам вы звязваеце магчымасць паляпшэння арганізацыйна-творчай дзейнасці БСМ?***



**Уладзімір УРОДНІЧ, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, жывапісец:**

**1.** На з'езд вялікіх спадзяванняў не ўскладаю, бо выкананне яго рашэнняў мала залежыць ад саміх сябраў БСМ. Аднак ад цяперашняга, XVI з'езда ў мастакоў пачнецца адлік часу, які вызначыць пераход нашай цывілізацыі ў трэцяе тысячагоддзе. І першае, што б мне хацелася, гэта захаваць нашыя адметныя традыцыі ў культуры і мастацтве, якія б "не змазаліся" пад націскам розных палітычных цунамі. Хацелася б перажыць усе цяжкасці і нягоды "дзікага рынку", пры якім мастакі апынуліся на ўзбочыне. Мяркую, што гэтыя пытанні паўстануць на з'ездзе ў першую чаргу.

**2.** Лічу найпершай справай — аднавіць дзяржаўную і сацыяльную замову на стварэнне вырабаў выяўленчага мастацтва. Неабходна прыкласці ўсе высілкі, каб не развaліць ушчэнт нашу творча-вытворчую базу і разам з інстытутамі дзяржаўнай улады вырашыць праславутую праблему падаткаабкладання. Узаемастасункі БСМ з абласнымі цэнтрамі, з так званай перыферыяй — таксама адна з важных праблем. У даперабудовачны перыяд мы мелі цікавыя напрацоўкі у гэтым плане, але ўсеагульны фінансавы развал разбурыў гэтыя ініцыятывы. Тое ж датычыць і вясковых карцінных галерэй, і пытанняў эстэтызацыі навакольнага асяроддзя шляхам комплекснага мастацкага афармлення гарадоў і вёсак. Безумоўна ж, патрэбныя сумесныя акцыі БСМ і аблвыканкамаў. У гэтым працэсе правафланговымі цяпер з'яўляюцца магіляўчане і віцябчане. Значыць, нешта мы ўсё ж можам рабіць? А яшчэ хочацца, каб нашыя вернісажы часцей наведвалі кіраўнікі дзяржавы, і разам з імі мы маглі б аналізаваць і вырашаць праблемы стану і развіцця нацыянальнага мастацтва...

**3.** Вопыт сведчыць, што праца БСМ заўсёды ідзе па тых прынцыпах, якіх прытрымліваецца кіраўнік творчай арганізацыі як у сваёй асабістай творчасці, так і ў сваёй грамадзянскай пазіцыі. Асабіста я з'яўляюся мастаком, які схіляецца да фігуратыўнай карціны і пленэрнага жывапісу. Перакананы, што менавіта твораў такога плана чакаюць ад нас людзі. І, натуральна, я жадаў бы бачыць такога старшыню Саюза, які б перажываў за аналагічныя праблемы больш востра, чым, скажам, учора.



**Анатоль ОТЧЫК, жывапісец, старшыня Гомельскай абласной арганізацыі БСМ:**

**1.** Спадзяюся, што з'езд дасць больш правоў абласным арганізацыям, бо пры разглядзе вытворча-творчых пытанняў узнікаюць пэўныя супярэчнасці паміж рашэннямі Рады БСМ і мясцовых праўленняў Саюза. Напрыклад, цяперашняе становішча — адсутнасць кантролю за працай нашага камбіната "Мастацтва" з боку абласнога праўлення — лічу ненармальным. Кантраляваць яго дзейнасць непасрэдна з Мінска — немэтазгодна.

**2.** Цяжка сказаць. Усё будзе залежаць ад эканамічнага стану нашай дзяржавы.

**3.** Я — за таго кіраўніка Саюза, які не на словах, а на справе будзе ўсяляк падтрымліваць абласныя арганізацыі БСМ.



**Віктар ГАЎРЫЛАЎ, мастак дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, педагог, кандыдат мастацтвазнаўства:**

**1.** Я — аптыміст. Ад з'езда чакаю разумнай і рэалістычнай праграмы, накіраванай на адраджэнне нашага нацыянальнага дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва, усяго таго лепшага, што было раней і што было страчана з розных прычын на шляху да цяперашняга стану. А падставы для такога адраджэння ёсць. У нас сёння створана шырокая сетка вышэйшых і сярэдніх мастацкіх навучальных устаноў, дзе рыхтуюць прафесійныя кадры. Менавіта яны закліканыя ператварыць наша грамадства ў эстэтычным плане. Іншая справа, што яны мала запатрабаваны дзяржавай... На з'ездзе павінна паўстаць гэтае пытанне...

**2.** Я веру ў перспектывы абнаўлення нашага Саюза. Пры ўмове, калі дзяржава зразумее не толькі ўласна эстэтычную значнасць нашага мастацтва ў краіне і свеце, але і эканамічную мэтазгоднасць прафесійнага, прамысловага і народнага мастацтва. Безумоўна, Саюзу трэба распрацаваць стратэгічную культурна-сацыяльную праграму. Веру, што будзе створаны і нацыянальны музей дэкаратыўна-ўжытковага і прамысловага мастацтва.

**3.** У новым кіраўніцтве павінны быць разумныя людзі, якія могуць вырашаць злабадзённыя праблемы Саюза і менш за ўсё дбаць пра ўласны дабрабыт.



**Эдуард АСТАФ'ЕЎ, скульптар:**

**1.** Ад з'езда я нічога асаблівага не чакаю. Аднак хацелася б, каб з'езд кансалідаваў нашыя творчыя сілы. Бо мы сёння вельмі раз'яднаныя, кожны сябар БСМ жыве нібыта паасобку. Раней так не было...

**2.** Талент і энергія ў беларускіх мастакоў ёсць. Аднак іх магчымасці напоўню не рэалізуюцца. А творчы патэнцыял у нас магутны. Толькі адных выстаў па краіне адбываюцца сотні! Скажу пра сябе. У 1997 годзе я стварыў дваццаць скульптурных твораў, сёлета — трынаццаць; за апошнія гады наладзіў тры свае персанальныя выставы. Ці мог я марыць пра гэта раней? Не. Памятаю, хацеў зрабіць выставу да свайго 40-годдзя, але мне сказалі: малады яшчэ. Безумоўна, шкада, што сёння многія мастакі больш працуюць для замежжа, чым для сваёй радзімы, але гэта ўжо асобная тэма. Хацелася б, каб наша дзяржава ішла нам насустрач і каардынавала ўсе нашыя творчыя высілкі; каб зноў з'явіліся сацыяльныя замовы на станковыя і манументальныя творы. Бо ў тым жа Мінску мала што змянілася за апошнія гады ў плане скульптурнага афармлення навакольнага асяроддзя...

**3.** Старшыня БСМ павінен валодаць не толькі вопытам, дзелавітасцю і арганізацыйным талентам. Ён павінен быць творчым аўтарытэтам, праваднікам нашых ідэй, каб "не цягнуў пад сябе", а душой "хварэў" за агульную справу...



**Іван КЛІМЕНКА, мастак-жывапісец:**

**1.** Ад з'езда нічога не чакаю. Акрамя асабістых сустрэч з мастакамі-калегамі... Гэта добрая нагода.

**2.** Як бы цяжка ні складваліся абставіны ў жыцці сённяшняга Саюза мастакоў, трэба разумець, што творца, з прычыны аб'ектыўнай адасобленасці творчага працэсу, заўсёды робіць крокі да таварыстваў і аб'яднанняў. Імпрэсіяністы, перасоўнікі, "фавісты", "бубнававалетаўцы", "мирискусники", "ахровцы", "голуборозовцы" — іх безліч... Безумоўна, агульны ўздым і каласальны паварот тварам да нацыянальнай культуры наўрад ці магчымы, але хаця б дзеля асобных крокаў на шляху да гэтага варта працаваць...

**3.** На чале Саюза хацеў бы бачыць вядомую творчую асобу. Асобу, здольную "ўзважыць" і ацаніць творчы патэнцыял кожнага сябра Саюза. Асобу, якая змагаецца за інтарэсы кожнай індывідуальнасці ў агульным катле сённяшніх груповак, аб'яднанняў і секцый.



**Уладзімір ЗІНКЕВІЧ, жывапісец-манументаліст, дацэнт БелАМ:**

**1.** Ад з'езда, перадусім, чакаю праграмы фармавання маладзёжнай палітыкі. Фармаванне будучыні маладых мастакоў, а, значыць, і будучыні ўсяго нашага нацыянальнага мастацтва. Мне як загадчыку кафедры манументальна-дэкаратыўнага жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў гэтыя пытанні асабліва блізкія. Вырашэнне "маладзёжнай" праграмы ўключае і супрацоўніцтва Саюза мастакоў з усімі творчымі ВНУ, з дзяржаўнымі структурамі, а таксама каардынацыю працэсаў, звязаных з эстэтызацыяй грамадскага асяроддзя і выхаваннем асобы. Карацей, умацаванне Веры ў сваю працу.

**2.** Павінна быць сфармавана дзяржаўная палітыка ў адносінах да творчай працы мастакоў. Саюз мастакоў, у сваю чаргу абавязаны шукаць новыя формы стасункаў з замоўцай, на практыцы пераконваючы і даводзячы значнасць і важнасць творчага працэсу.

**3.** Сярод кіраўнікоў Саюза бачу людзей, якія страсна любяць мастацтва і змагаюцца за яго. Гэта блок мастакоў-прафесіяналаў і эканамістаў-прафесіяналаў, якія ведаюць, што і як рабіць.



**Уладзімір ЧАРНЫШОЎ, мастак тэатра і кіно, галоўны мастак Дзяржаўнага акадэмічнага Рускага драматычнага тэатра імя М.Горкага:**

**1.** Чакаю, каб мае калегі прыйшлі на з'езд здаровымі і з бляскам у вачах. Каб з'езд вызначыў штогадовую цвёрдую квоту на размеркаванне творчых майстэрняў. Іншымі словамі, каб не парушалася законнасць пры размеркаванні майстэрняў. Хачу ўнесці прапанову — пра стварэнне секцыі мецэнатаў-спонсараў пры БСМ, якая б складалася як з прыватных асоб, так і з асобных фірм (з дазволу дзяржаўных структур).

**2.** Трэба вярнуцца да таго добрага, што было раней, гэта значыць, да больш шчыльнага адзінства сяброў Саюза. Часцей наладжваць сумесныя пасяджэнні секцый, сумесныя выставы, пленэры, творчыя семінары. Адрадзіць дзяржаўныя дамовы з мастакамі. Пабудаваць Дом творчасці, у тым ліку і для мастакоў тэатра, кіно і тэлебачання. Пералік жыццёва важных для мастака задач можна працягваць.

**3.** Я бачу каманднае кіраванне Саюзам, а не аднаасобнае, гэта значыць, "тандэм па-кітайску". У перыяд паміж з'ездамі Саюзам павінны кіраваць два чалавекі: адзін займаецца стратэгічнымі задачаміі творча-вытворчай дзейнасці, другі — выканальнік, які мае памочнікаў — юрыста, эканаміста і адказнага камісара па выставачнай дзейнасці. Праз пэўны перыяд яны мяняюцца месцамі і працягваюць працаваць. Безумоўна, для такой структуры трэба ўнесці адпаведныя папраўкі ў Статут БСМ.

## ГЕРАІНЯ ІМПРЭЗЫ — НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДРАМАТУРГІЯ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)*

**— Прашу прабачыць мне не зусім святочнае пытанне, аднак — ці не занадта многа ў нас сёння тэатральных фестываляў?**

— Лічу, што не! Асабліва ў сучасных умовах, калі тэатры рэзка абмежаваныя ў гастрольнай дзейнасці. Іншая справа, што фестывалі не павінны паўтараць адзін аднаго, мець сваю яркую творчую адметнасць. Вось тады не ўзнікне пытанне — ці не замнога?

**— Ва ўсіх фестывальных імпрэзах, што адбываліся ў нас, Міністэрства заўсёды выступае адным з іх галоўных заснавальнікаў і арганізатараў. Гэта прынцыповая пазіцыя Міністэрства?**

— На пэўным этапе развіцця фестывальнага руху інакш было нельга. Але на сёння большасць фестываляў ужо моцна стаяць на сваіх нагах і здатныя выпраўляцца ў творчае плаванне самастойна. Гэта, мяркую, толькі б дапамагло ім хутчэй набыць сваю індывідуальнасць. Што тычыцца Міністэрства, дык яно, на маю думку, сёння магло б сканцэнтраваць свае намаганні на арганізацыі буйнога міжнароднага фестывалю і месцам правядзення яго абавязкова выбраць сталіцу. Чаму сталіцу? Таму што з 1991 года ў Мінску не адбыўся ніводны маштабны міжнародны тэатральны фестываль у жанры драматычнага тэатра. Мы павінны клапаціцца аб умацаванні культурнага іміджу Рэспублікі Беларусь у свеце, а ў гэтай справе пераважная роля сталіцы — бясспрэчная.

Мяркую, што пад пастаянным патранажам Міністэрства павінен быць і фестываль нацыянальнай драматургіі, бо ён па сваім духу і значнасці з'яўляецца адным з выразнікаў галоўных накірункаў нацыянальна-культурнай палітыкі дзяржавы. Усё гэта, зразумела, не разбурае тую структуру тэатральных фестываляў, якая ўжо склалася, а толькі ўдасканальвае і дапаўняе яе.

**— І апошняе. Як арганізатары фестывалю нацыянальнай драматургіі фармулююць яго асноўныя мэты?**

— Мне бачыцца гэтае свята як агляд творчых магчымасцей беларускага тэатра і сучаснай драматургіі. Хацелася б, каб ён паспрыяў змене адносін нашых тэатраў і рэжысёраў да беларускай драматургіі, каб яны верылі ёй і звярталіся да яе. Гэтая тэатральная імпрэза павінна прымусіць задумацца і ўключыць у новы мастацкі працэс, зразумела, і нашых аўтараў. Бо беларускі тэатр без сваёй роднай глебы — не нацыянальны тэатр, а нешта зусім іншае.

Дарэчы, разгляду стану сучаснай драматургічнай творчасці, праблемам яе ўзаемаадносін з тэатрам будзе прысвечана навуковая канферэнцыя, што пройдзе ў межах фестывалю. Да ўдзелу ў ёй запрошана вялікая група драматургаў, рэжысёраў, тэатразнаўцаў, а таксама іх калегі з Расіі і Украіны.

**Наш кар.**

# ДАЖЫЦЬ БЫ ДА ПЕРАЕЗДУ?

**На працягу 12 гадоў стаіць пытанне аб закрыцці Тэатра оперы і балета на рэканструкцыю і рэстаўрацыю. Нарэшце падрыхтаваны адпаведны праект, у студзені наступнага года будзе абвешчаны тэндэр на вызначэнне генеральнага падрадчыка. Праект прайшоў экспертызу. Новае месца жыхарства тэатра — Палац Рэспублікі. Перасяленне плануецца распачаць у трэцім квартале наступнага года. Наколькі ўтульна будзе пачуваць сябе тэатр пад новым дахам — гэта асобная тэма. Мы неаднойчы звярталіся ў сваіх публікацыях як да творчых, так і да арганізацыйна-матэрыяльных праблем Тэатра оперы і балета, якія падаваліся нам найбольш важнымі і надзённымі. Наш жа сённяшні аповед аб тым, якімі клопатамі жыве сусветнавядомая культурная "візітоўка" краіны напярэдадні "вялікага перасялення".**

Кажуць, даўным-даўно савецкія хакеісты трэніраваліся без ніякіх абарончых "прычындалаў", толькі канькі ды клюшка, і ў выніку лёгка выйгравалі міжнародныя чэмпіянаты. Сёння беларускія артысты оперы і балета, здаецца, чымсьці нагадваюць тых хакеістаў. Ды толькі спартанскія ўмовы, у якіх яны вымушаны "трэніравацца", наўрад ці садзейнічаюць павышэнню ўзроўню іхняга майстэрства.

Калі я ўпершыню паглыбіўся ў закулiснае жыццё Тэатра оперы і балета, мне падалося, што я патрапіў у іншы, паралельны свет, дзе не было нічога агульнага са святочнай атмасферай спектакля. Упэўнены, калі б такія экскурсіі культываваліся сярод гледачоў, іх апладысменты і крыкі "брава" падчас спектакляў гучалі б значна мацней.

Ад працоўных памяшканняў оперных спевакоў — грымуборных, харавых класаў — павявае няўтульнасцю. Верхнюю вопратку ў цяперашні дажджлівы час артысты вымушаны складваць у тым жа пакоі, дзе і адбываецца рэпетыцыя. Імгненна распаўсюджваецца вільгаць, што вядома, не лепшым чынам адбіваецца на галасавых звязках.

У такіх жа невясёлых умовах існуе і тэатр балета. Увогуле, адзіная яго перавага перад оперным у тым, што ён збірае поўную залу гледачоў, а кошт квіткоў на яго спектаклі, ад продажу якіх у першую чаргу залежыць прыбытак тэатра, значна вышэйшы. "У нас спецыфічная публіка, — тлумачыць намеснік дырэктара тэатра оперы Алена Яскевіч. — Гэта, як правіла, работнікі культуры, мастацтва, пенсіянеры, фінансавае становішча якіх агульнавядомае. І калі мы павялічым кошт на квіткі, яны проста не змогуць нас наведваць". Каб дапоўніць фінансавую карціну тэатра оперы, зазначу, што валюту, якую тэатр зарабляе падчас замежных гастроляў, можна абмяняць на рублі толькі па курсе Нацбанка. А па безнаўным разліку у магазінах немагчыма набыць тую ж лямпачку для свяцільні.

Але навошта, здавалася б, нешта самастойна набываць, калі ў 1996 годзе ў структуры гэтай культурнай установы з'явілася творчае аб'яднанне, прызначанае ў першую чаргу для таго, каб вырашаць гаспадарчыя пытанні абодвух тэатраў і тым самым даць ім магчымасць спакойна займацца творчасцю? Няўжо атрымліваецца, што пад адным дахам існуюць тры асобныя адзінкі, кожная з якіх клапоціцца пра сябе?

На якія ж мэты выдаткоўваюцца сродкі, што Міністэрства культуры выдзяляе творчаму аб'яднанню, і чым увогуле гэтае аб'яднан-
н е займаецца?

— Наша галоўная задача на сённяшні дзень — падтрымліваць будынак тэатра ў эксплуатацыйным стане і забяспечваць усе тэхнічныя ўмовы, неабходныя для пастаноўкі спектакляў, — кажа намеснік дырэктара па гаспадарчай частцы Віктар Анціпаў. — Сам будынак ужо даўно дыхае на ладан. На гэты год Міністэрства выдзеліла на капітальны рамонт тэатра 1 мільярд 850 мільёнаў рублёў. І літаральна на днях выдзелена яшчэ пэўная сума грошай...

Як расказаў В.Анціпаў, дахавае крыццё, усе латы і кроквы не на жарт падгнілі. Амаль штодзень то тут, то там з'яўляюцца новыя дзіркі, праз якія струменіць вада. З гэтай бядой даводзіцца змагацца дзедаўскім спосабам; расцілаць на гарышчы вялізныя кавалкі поліэтыленавай плёнкі, а потым зліваць ваду. Зусім нядаўна моцны парыў ветру сарваў з верхняга купала некалькі жалезных лістоў, утварыўшы яшчэ адну "дзірачку" плошчай у 40 квадратных метраў. На тое, каб яе залатаць, спатрэбілася 100 мільёнаў рублёў. А ўвогуле, за гэты год дах "з'еў" каля 300 мільёнаў. "І гэта, — сказаў мой суразмоўца, — дробязі ў параўнанні з тым, у якую каляпічны "ўляцелі" 9 аварый у сістэме каналізацыі і цеплаcетак. У падвале мы замянілі ўсе водаправодныя трубы — 800 метраў, — якія за паўстагоддзя эксплуатацыі літаральна спарахнелі. Зрабілі поўны рамонт і электраабсталявання сцэнічнага комплексу, што абышлося нам прыкладна ў 600 мільёнаў. Аднак усё прадугледзець немагчыма. Аднойчы адразу пасля вячэрняга спектакля абарваўся трос і агромністая заслона грымнулася проста на сцэну. Нам пашчасціла, што трос не абарваўся крыху раней, падчас балетнага дзейства. Усю ноч даваліся выпраўляць гэтую аварыю, каб не сарваць ранішні спектакль. Альбо іншая неспадзеўка: на стале глядзельнай залы з'явіліся трэшчыны. Толькі на абследаванне гэтай з'явы было выдаткавана 200 мільёнаў рублёў. Рэзюмэ: праводзіць спектаклі з выкарыстоўваннем гукаўзмацняльнай апаратуры нельга, бо гукавыя ваганні могуць увайсці ў рэзананс з ваганнямі сталі, і тынкоўка пачне асыпацца на галовы гледачоў". Балазе, аднаўлёныя цепласеткі функцыяніруюць належным чынам. У балетных і харавых класах стабільна захоўваецца 20 градусаў, што з'яўляецца неабходнай умовай бяспекі як для галасавых, так і для мышачных звязак.



На гэтай суцяшальнай ноце хацелася б прыпыніць сумны аповед Віктара Паўлавіча, які распачаўся ў яго кабінеце і несупынна працягваўся падчас нашага падарожжа на гарышча, у падвальныя памяшканні і далей па закулісных закутках тэатра. Трэба сказаць, што ўвесь гэты час мяне не пакідала адчуванне нейкай нябачнай, а часам і цалкам відавочнай небяспекі. "Мы зараз нібыта сядзім на парахавой бочцы", — раптам вымавіў мой спадарожнік пасля заканчэння агляду тутэйшых "славутасцей". І, пэўна ж, меў рацыю.

— Цяпер вы разумееце, — сказаў В.Анціпаў, — што пры ўсім жаданні мы не ў стане задаволіць усе запыты, якімі нас бамбардзіруюць работнікі опернага і балетнага тэатраў. Канешне, цьмянае асвятленне ў грымёрках — гэта даволі сур'ёзная праблема. На дадзены момант трэба заманіць 40 свяцільняў. 12 новых мы ўжо набылі, на астатнія пакуль проста няма грошай. Аднак артыстаў гэта не цікавіць, як і тое, у якім стане знаходзяцца тэатральныя бойлерныя, прыбіральні для гледачоў альбо цэх па вытворчасці дэкарацый. Вось у чым уся справа.

**Алесь ФІЛІПОВІЧ**

*Рэпліка ад "К"*

# СЯРЭДНІ ПАЛЕЦ РУКІ АБДУЛАВА

**Кожны з нас, хто лічыць сябе адукаваным чалавекам і чытаў М.Булгакава, ведае, што не бывае асятрыны другой свежасці. Здзіўляе, што сёння многія не зважаюць, альбо не жадаюць зважаць, на гэтую відавочную ісціну. Гастрольныя спектаклі "другой свежасці" аблюбавалі беларускую сцэну.**

Ажыятаж пачаўся яшчэ за месяц. Вестка, што ў Мінск прыедзе "Ленком", многіх пазбавіла спакою. Квіткі раскупілі імгненна, нягледзячы нават на тое, што іх кошт даходзіў да палутара мільёнаў. Зразумела, хто ж адмовіцца ад магчымасці ўбачыць на сцэне "жывых" Абдулава і Збруева — тых, хто стаў ужо легендай кіно і тэатра? Мяне таксама спакусіў надпіс на афішы: "Школа з тэатральным ухілам". Рэжысёр — Марк Захараў. "А можа, гэтым разам усё будзе інакш?" — падумала я і папшылася на спектакль. Аднак расчараванне прыйшло з першымі хвілінамі спектакля: я зноў адчула сябе жорстка падманутай. Мяне, як і любога тэатральнага чалавека, не пакідаюць раўнадушнай гастролі іншых тэатраў — прафесійная цікавасць і, да ўсяго, магчымасць ацаніць узровень нашых акцёраў. Тым больш — "Ленком", Абдулаў...

Мая першая сустрэча з акцёрам Аляксандрам Абдулавым адбылася гады тры таму ў Віцебску, куды "Ленком" прывёз "Кішэнны тэатр" Жана Както. Старэйшае пакаленне магло бачыць знакамітую тэлеверсію гэтага спектакля, тым не менш глядзельная зала тэатра была паўнюткая. Мне ўдалося патрапіць на самы першы спектакль і ... Па нейкіх прычынах, якія ніхто не паклапаціўся растлумачыць гледачам, Аляксандр Абдулаў у Віцебск не прыехаў. Хтосьці сказаў, што ён заняты новым суперпраектам "Брэменскія музыкі", аднак гэта так і засталося версіяй. Між іншым, грошы гледачам ніхто вяртаць не збіраўся, акцёры вырашылі "адпрацаваць" іх на свой густ. Кожны спрабаваў улагодзіць віцьблян па-свойму. Алена Шаніна з прыродным абаяннем распавядала сваю творчую біяграфію і чытала ўрыўкі з "Юноны і Авось". Ірына Алфёрава спрабавала зачараваць палымяным маналогам, які суправаджаўся нервова-паралітычнымі танцамі і раптоўна нахлынуўшымі ўспамінамі пра свайго дзеда-беларуса з вялікімі сінімі вачамі. У Аляксандра Збруева, дзякуючы ягонаму пачуццю гумару, размова з гледачом атрымалася асабліва цікавай. Але ўсе яны чыталі вершы свайго любімага Мікалая Гумілёва (усе — з аднаго зборніка), хвалілі беларусаў і скардзіліся на цяжкае жыццё. Праз дзве гадзіны ад пачатку "прадстаўлення" гледачы выйшлі з залы. А назаўтра, калі Абдулаў нарэшце з'явіўся ў Віцебску, пакрыўджаныя жанчыны наладзілі імправізаваны пікет ля службовага ўваходу ў будынак тэатра і ў перапынках паміж трыма спектаклямі патрабавалі асабістай сустрэчы з акцёрам. Акцёр, зразумела, пікетчыц "не заўважыў".

Мінулай восенню Аляксандр Абдулаў завітаў у Мінск. На гэты раз ён прывёз той самы ўласны суперпраект — шоу "Брэменскія музыкі", дзеля якога ён "ахвяраваў" віцебскімі гледачамі. Сябры зрабілі мне падарунак на дзень нараджэння, і я, седзячы ў зале Дома афіцэраў, з нецярплівасцю чакала пачатак супершоу. Згасла святло, з крыкам на сцэну выбеглі дзяўчаты ў карнавальных касцюмах жывёл (гэта і былі брэменскія музыкі!) і сталі скакаць ды спяваць пад фанаграму. Так было да антракту, так працягвалася і пасля. Мужчын на сцэне было ўсяго двое: Казачнік і Трубадур (недахоп хлопчыкаў — заўсёдная праблема дзіцячых самадзейных тэатральных гурткоў). А шоу заключалася ў тым, што Казачнік спрабаваў зацікавіць юных гледачоў дармавымі каляндарыкамі, якія ён час ад часу жменямі кідаў у залу.

І вось сёлета 25 кастрычніка прозвішча Абдулава зноў з'явілася на мінскіх афішах, а побач з ім — Аляксандр Збруеў і Марк Захараў. Толькі распачаўся спектакль, і я зноў узгадала віцебскі "Кішэнны тэатр". Як і тры гады таму, Абдулаў паляжаў на раскладушцы і з задуменным выглядам спрабаваў філасофстваваць. Далей яны разам з героем Збруева сталі абмяркоўваць, хто з іх "вонючий князь", а хто — "сраная тварь", хто "импотент", а ў чыіх "баб только голова і жопа". Яшчэ класік Станіслаўскі сказаў, што калі ў першай дзеі на сцэне вісіць стрэльба, у апошняй яна абавязкова стрэліць. Тут яны нешта не стралялі. Змяніўшы неэстэтычнае трыко на касцюм Івана Грознага, доўга хадзіў герой Абдулава па сцэне. Добра падпіўшы (пілі героі на сцэне з бутэлек, у якіх да спектакля плёскалася айчынная крышталеўская "Белая Русь") і потым распрануўшыся, герой Збруева залез на раскладушку разам з манекенам для адпрацоўкі прыёмаў барацьбы, накрыўся коўдрай і, імітуючы палавы акт, даў магчымасць Абдулаву ўтыркнуць нож у манекен. Сцэна забойства мужам сваёй жонкі ў абдымках нахабнага палюбоўніка стала кульмінацыяй і павінна была пакарыць гледачоў. А потым на сцэну выбег маленькі хлопчык — ягоны сын, і ўсе ўтраіх селі есці сапраўдны суп...

Спрактыкаваны тэатразнаўца мог бы падвесці пад гэты спектакль шэраг тэорый пра тое, што жыццё — тэатр, а мы ўсе ў ім — акцёры. Аднак мяне асабіста спектаклі такога кшталту проста абражаюць. У першую чаргу тым, што лічаць гледачоў "цёмнымі правінцыяламі", якія з'ядуць усё, што пададуць. Асабіста мяне не цікавіць сярэдні палец рукі Абдулава, які ён дэманстраваў гледачам, сціснуўшы астатнія чатыры ў абразлівы жэст, навязаны нам амерыканскай падваротняй. Бо гэта — не сцэнічная метафара, а адкрытае стаўленне да тых, хто "выкінуў" паўтара мільёны за тое, каб на гэты палец паглядзець.

А гледачы пляскалі ў далоні. Многія з іх праглынулі гэтае "варыва", нават не зразумеўшы, што ж гэта такое было. Відаць, па інерцыі мы ўсё яшчэ верылі ў непарушны аўтарытэт маскоўскіх тэатраў. А між іншым, шмат якія беларускія тэатры ўжо даўно пераступілі праз непрыстойнасці і падліванні да гледачоў. Тут, на радзіме і за значна меншыя грошы, можна ўбачыць шэдэўры тэатральнага мастацтва. Іншая справа — адсутнасць рэкламы і наша заўсёдная звычка ганьбіць уласнае.

Я не супраць Абдулава і яму падобных — няхай прыязджаюць, гастралююць. Адзінае, што клапоціць мяне — аб'ектыўнасць ацэнкі. Навошта ляпіць цукеркі "з імем", калі аб'ектыўна яны нічога не вартыя? Няўжо другі гатунак — не брак? Ці як?!

**Таццяна КОМАНАВА, карэспандэнт "К"**



№ 43 14 — 20 лістапада 1998 г.



*Вядучая вечарыны Ганна Сапсай.*

# АДАМ МІЦКЕВІЧ І УКРАІНА

10 лістапада ў Доме дружбы адбылася вечарына "Адам Міцкевіч і Украіна" з удзелам Рады таварыства "Беларусь — Украіна", украінскай дыяспары, супрацоўнікаў амбасады Украіны на Беларусі, творчай інтэлігенцыі, студэнтаў-украіністаў БДУ.

Сустрэчу адкрыў старшыня праўлення таварыства "Беларусь — Украіна" Віктар Гайсёнак. Пра знаходжанне А.Міцкевіча ў Маларосіі і ягоных сувязях з мясцовай інтэлігенцыяй, пра ўплыў украінскай аўры на паэзію аўтара "Крымскіх санетаў" распавяла дацэнт БДУ, кандыдат філалагічных навук Таццяна Кабржыцкая.

Прагучалі вершы А.Міцкевіча ў перакладах украінскіх і беларускіх паэтаў у выкананні студэнтаў філалагічнага факультэта БДУ.

Да вечарыны была прымеркавана спецыяльная выстава беларускіх мастакоў, прысвечаная Украіне. У ёй прадстаўлены жывапісныя палотны народных мастакоў Беларусі Леаніда Шчамялёва і Аляксандра Кішчанкі, заслужанага дзеяча мастацтваў Івана Дмухайлы, лірычныя пейзажы Мікалая Назаранкі і Генадзя Івакіна, акварэлі народнага мастака Беларусі Гаўрылы Вашчанкі, "крымскія" матывы Ніны Пілюзінай і Людмілы Пуцейка. Віктар Гаўрылаў паказаў тры керамічныя блюды з украінскімі сюжэтамі і акварэль "Гуцул". Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, сябра Рады таварыства "Беларусь — Украіна" Барыс Крэпак пракаментаваў выставу і прэзентаваў яе аўтараў, якія прысутнічалі на вечарыне, а таксама распавёў пра даўнія мастацкія ўзаемасувязі Украіны і Беларусі.

У сустрэчы ўдзельнічалі паэт Васіль Жуковіч, саліст Міхаіл Хаецкі і навучэнцы музычнай вучэльні. Вечарыну вяла дацэнт БДУ, кандыдат філалагічных навук, сябра Рады таварыства "Беларусь — Украіна" Ганна Сапсай.

**Наш кар.**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



*В.Гаўрылаў. "Гуцул". Акварэль.*

# ПРЭМІІ ПРАФСАЮЗАЎ

Дзесяць гадоў таму былі заснаваны прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай у галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і самадзейнай творчасці. Прысуджаюцца яны кожны няцотны год да Свята працы — 1 мая. За гэты час прысуджана 6 прэмій. Лаўрэатамі сталі 11 калектываў і 78 творцаў.

Прэзідыумам Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай прынята рашэнне аб умовах прысуджэння прэмій за 1999 год. Іх будзе:

пяць прэмій у галіне літаратуры і мастацтва, у тым ліку:

— за творы прозы і паэзіі — адна прэмія;

— за музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць — адна прэмія;

— за работу ў галіне тэатральнага мастацтва — адна прэмія;

— за работы ў галіне кінамастацтва — адна прэмія;

— за творы жывапісу, скульптуры, графікі і ўжытковага мастацтва — адна прэмія;

тры прэміі за дасягненні ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці, у тым ліку:

— за актыўную работу па развіцці народнай культуры і самадзейнай творчасці працоўных — адна прэмія;

— за высокія дасягненні ў самадзейнай мастацкай творчасці (для дзіцячага і дарослага самадзейных калектываў) —дзве прэміі;

адна прэмія за работы ў галіне журналістыкі.

На атрыманне прэміі прымаюцца творы і работы, апублікаваныя, публічна паказаныя ці выкананыя за апошнія чатыры гады, але не пазней, чым за 6 месяцаў да ўстаноўленага тэрміну вылучэння на прэмію. Не могуць быць прадстаўлены работы, якія адначасова вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, прэмій іншых дзяржаў, міжнародных прэмій або якія ўжо атрымалі такія прэміі. Колькасць прэтэндэнтаў на атрыманне прэміі ў групе аўтараў не павінна перавышаць 4 чалавекі.

Вылучэнне работ на атрыманне прэміі праводзіцца працоўнымі калектывамі прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, абласнымі аб'яднаннямі і рэспубліканскімі камітэтамі прафсаюзаў, органамі культуры, творчымі саюзамі і арганізацыямі, міністэрствамі і ведамствамі Рэспублікі Беларусь.

Дакументы на вылучэнне на прэміі прымаюцца да 1 студзеня 1999 года камісіяй у Федэрацыі прафсаюзаў (220126, г.Мінск, пр.Машэрава, 21, пакой 804).

Тэлефоны для даведак: 223-96-83, 223-95-83.

# ЗНОЎ РАСКЛАДУЦЦА ПА ПАПКАХ?

Дзіцячыя творы — малюнкі, акварэлі, гуашы, гравюры, якія зроблены нядаўна, і тыя, час стварэння якіх налічвае нават не адзін дзесятак гадоў, — запоўнілі сцены выставачнай залы Слуцкага краязнаўчага музея. У экспазіцыю ўвайшлі таксама розных гадоў граматы, дыпломы, фотаздымкі. Гэта — рэтраспектыўная выстава, якой адзначаецца саракапяцігоддзе народнай студыі выяўленчага мастацтва Слуцкага гарадскога Цэнтра дзіцячай творчасці.

Тут дзейнічае той ачаг мастацкага выхавання, да якога збіраюцца ўсе, хто жадае выявіць свае творчыя здольнасці. І да сённяшняга дня менавіта тут знаходзілі першую прыступку да свету мастацтва ўжо некалькі пакаленняў таленавітых юных случчан. Сёння на выставе можна ўбачыць дзіцячыя работы многіх цяперашніх мастакоў. Імёны некаторых з іх добра знаёмы аматарам і знаўцам сучаснага беларускага мастацтва, бо наўрад ці трэба прадстаўляць Уладзіміра і Міхаіла Басалыгаў, Георгія Скрыпнічэнку, Уладзіміра Цэслера. Набываюць вядомасць не толькі на Беларусі, але і за яе межамі Уладзімір Голуб, які сёння жыве ў Гродна, і мінчук Уладзімір Акулаў. Шэраг мастакоў — выхадцаў са Слуцка — жывуць за межамі краіны. А колькі хлопчыкаў і дзяўчынак далучыліся да выяўленчай творчасці, а потым выбіралі прафесіі выхавацеляў, выкладчыкаў, архітэктараў. І несумненна, што далучэнне гэтае ў душы кожнага з іх пакінула свой добры след.

Цяпер работу студыі ўзначальвае яе былая выхаванка Н.Шуманская. А пачынаў у жніўні 1953 г. і да 1984 г. яе кіраўніком быў заслужаны работнік культуры Беларусі У.Садзін, які і да гэтага часу пры студыі вядзе сваю групу. Для яго выстава — магчымасць азірнуцца ў мінулае, падвесці пэўныя вынікі. А ўспомніць і паказаць ёсць што.

Ужо з года заснавання гурток выяўленчага мастацтва становіцца актыўным удзельнікам усіх рэспубліканскіх выстаў дзіцячай творчасці. 1956 год запомніўся ўдалым дэбютам на Усесаюзнай выставе, а ў наступным — на Міжнароднай, у Югаславіі. Праз пяць гадоў пасля заснавання слуцкая студыя, прадстаўленая на Усесаюзнай выставе, адзначалася як узорная разам з яшчэ дзвюма — з Расіі і Узбекістана. За ўдзел у шматлікіх выставах і конкурсах студыя, яе кіраўнік і асобныя студыйцы атрымліваюць граматы, дыпломы, прэміі. Станоўчыя водгукі аб рабоце юных слуцкіх мастакоў у свой час давалі такія майстры, як акадэмік У.Фаворскі, прафесар А.Пашчанка, народны мастак СССР М.Жукаў. Вынікам шматгадовай плённай працы было нададзена ў 1980 г. студыі звання "народнай".

Прадстаўленая экспазіцыя — невялікая частка таго, што можна было б паказаць. А колькі работ разляцелася на разнастайныя выставы і конкурсы, куды адпраўляліся лепшыя з іх? Дзе яны цяпер? Ды й гэтыя работы праз нейкі час знімуцца, раскладуцца па папках, і хто іх калі ўбачыць ізноў? Каштоўнасць дзіцячых твораў у сучасных калекцыянераў не выклікае сумнення, на іх звяртаюць увагу спецыялісты розных навуковых дысцыплін. Шкада, што сёння ў краіне няма музея дзіцячай творчасці або дзіцячай карціннай галерэі. А выразна ўзнятае пытанне захавання лепшых узораў дзіцячай творчасці, захавання і вывучэння вынікаў дзейнасці найбольш адметных мастакоў-педагогаў, відаць, ужо наспела. Вось на такія роздумы наводзіць азнаямленне з гэтай цікавай экспазіцыяй.

**Ігар ЦІТКОЎСКІ**
*Слуцк*

# ВЕДАЙ І ПОМНІ СВОЙ РАДАВОД

4 лістапада ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь прайшла незвычайная сустрэча людзей розных пакаленняў з розных мясцін, правесці якую некалі задумаў пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка", прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі. А сабраліся на гэтую сустрэчу, якую ладзілі, апрача бібліятэкі, Камітэт па архівах і справаводстве РБ і выдавецтва "Беларусь", — Ліпскія! Шмат гадоў займаўся ініцыятар гэтага свята сваім радаводам — і вось сабраў разам і сваякоў, і проста цёзкаў па прозвішчы.

**Наш кар.**

# ЛЕПЕЛЬ — ГОРАД ТЭАТРАЛЬНЫ?

Споўнілася 60 гадоў, як у лістападзе 1938 года ў Лепелі быў створаны калгасна-саўгасны тэатр. Яго акцёрамі сталі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці з Лепельскага, Ушацкага, Гарадоцкага і іншых раёнаў Віцебскай вобласці, людзі розных спецыяльнасцей і прафесій. Усіх аб'яднала любоў да драматычнага мастацтва. Мастацкім кіраўніком быў прызначаны К.Катлінскі. У рэпертуары тэатра былі спектаклі, канцэртныя праграмы.

У жніўні 1939 года мастацкім кіраўніком Лепельскага калгасна-саўгаснага тэатра стаў Казімір Пятровіч Стэцкі, ураджэнец хутара Пад'ельнік Лагойскай воласці Барысаўскага павета. Ён скончыў Кіеўскі інстытут тэатральнага мастацтва ў 1936 годзе і атрымаў спецыяльнасць рэжысёра-акцёра. Працаваў у тэатрах Кіева і Жытоміра. Прыехаўшы ў Лепель, малады мастацкі кіраўнік абнавіў рэпертуар мясцовага тэатра, запрасіў на работу новых акцёраў. Тады былі паказаны спектаклі па творах Ю.Германа, А.Глебава, К.Крапівы, Кузьмы Чорнага, А.Астроўскага і інш. Некаторыя лепельчане і зараз памятаюць яркія афішы, якія заклікалі жыхароў горада і суседніх вёсак паглядзець выступленні самадзейных аматараў сцэны.

Далейшы лёс тэатра склаўся наступным чынам. У красавіку 1941 года ён (згодна з пастановай Савета Народных Камісараў БССР) быў пераведзены ў Вілейскую вобласць і на яго базе створаны Вілейскі абласны калгасна-саўгасны тэатр.

Але хутка пачалася Вялікая Айчынная вайна. Будынак тэатра, у якім праходзілі спектаклі ў Лепелі, згарэў.

Новы этап у аднаўленні лепельскага тэатра пачаўся ў 1989 годзе, калі з Украіны ў горад прыехалі муж з жонкай Віктар і Наталля Джамілашвілі, выпускнікі Кіеўскага інстытута культуры. Віктар Іванавіч стварыў пры раённым Доме культуры тэатр "Пошук", які за кароткі час стаў папулярным і ў 1992 годзе атрымаў званне народнага. За дзевяць гадоў сцэнічнай дзейнасці самадзейнымі артыстамі было падрыхтавана 14 спектакляў па творах беларускіх і замежных аўтараў, у тым ліку Я.Купалы і А.Дударава.

Энергічны і ініцыятыўны калектыў стаў дыпламантам рэспубліканскага фестывалю ў Мазыры, дзе атрымаў прэмію за лепшую рэжысуру і сцэнаграфію, лаўрэатам абласнога фестывалю тэатральных калектываў, рэспубліканскага фестывалю "Беларусь — мая песня".

Выхаваныя на лепшых традыцыях багатай і самабытнай культуры братняй Украіны, Віктар Іванавіч і Наталля Васілеўна вучаць тэатральнаму мастацтву беларускіх падлеткаў у Лепельскай школе мастацтваў. Яны выхоўваюць у нашых дзетак пачуццё любові і павагі да своеасаблівай і непаўторнай беларускай культурнай спадчыны.

Сёння тэатр "Пошук" займае пачэснае месца ў культурным жыцці Лепельшчыны, працягваючы лепшыя традыцыі папярэдняга пакалення.

**Ілля ЯНУШ, краязнаўца.**
*Лепель*

# ВІНШУЕМ!

***Разглядзеўшы хадайніцтвы ўпраўленняў культуры Віцебскага, Гомельскага аблвыканкамаў, Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, заключэнні атэстацыйных камісій, калегія Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь вырашыла:***

**За дасягнутыя поспехі ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці, актыўную работу па прапагандзе народных традыцый прысвоіць найменне "НАРОДНЫ САМАДЗЕЙНЫ КАЛЕКТЫЎ":**

— эстраднаму калектыву "25 плюс-мінус" Пастаўскага раённага Дома культуры Віцебскай вобласці;

— поп-гурту "Пані Хіда" Аршанскага гарадскога Дома культуры Віцебскай вобласці;

— фальклорнаму калектыву "Добры вечар" Рагачоўскага педагагічнага вучылішча Гомельскай вобласці;

— студэнцкаму тэатру эстрадных мініяцюр "СанТэхЭлектраМантаж" культурнага цэнтра Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны.

**"УЗОРНЫ САМАДЗЕЙНЫ КАЛЕКТЫЎ":**

— хараваму калектыву "Натхненне" Брылёўскай сярэдняй школы Гомельскага раёна;

— фальклорнаму ансамблю "Сакавіца" Брылёўскай сярэдняй школы Гомельскага раёна.

# "БЛУКАЮЧЫЯ ЗОРКІ" Ў ЧАСЕ І ПРАСТОРЫ

У кастрычніку ў Доме-музеі І з'езда РСДРП пры падтрымцы прадстаўніцтва "Джойнт" у Рэспубліцы Беларусь распачалася выстава Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, прысвечаная творчасці Беларускага дзяржаўнага габрэйскага тэатра. Сімвалічна, што адкрыццё выставы адбылося дзень у дзень праз семдзесят два гады ад адкрыцця самога тэатра. Не выпадковая і яе назва — "Блукаючыя зоркі".

Дзяржаўны габрэйскі тэатр у Мінску існаваў нядоўга: з кастрычніка 1926 да красавіка 1949 года. Яго мастацкімі кіраўнікамі былі М.Рафальскі, а пазней — Г.Галаўчынер. У розныя гады ў тэатры працавалі рэжысёры Л.Літвінаў, А.Айзенберг, мастак А.Тышлер. Сярод акцёраў былі такія выдатныя асобы, як Ю.Аронтчык, М.Моін, М.Сокал, А.Трэпель і іншыя.

На выставе прадстаўлены ўсе чатыры перыяды дзейнасці тэатра. Студыйны перыяд у Маскве адлюстроўваюць здымкі са спектакляў, эскізы касцюмаў. Далей — прафесійнае станаўленне тэатра, ваенны і пасляваенны перыяды. У 1949 годзе тэатр быў расфарміраваны... Зразумела, сёння збор матэрыялаў пра габрэйскі тэатр ускладняецца шмат якімі акалічнасцямі, у першую чаргу тым, што большасць іх наўмысна альбо несвядома была страчана. Аднак аўтарам выставы ўдалося сабраць шэраг экспанатаў, пачынаючы ад тагачаснай швейнай машынкі і да апошняга здымка С.Міхоэлса сярод акцёраў тэатра, зробленага напярэдадні яго забойства.

Адкрыццё выставы адбылося ў цесным коле сяброў і аднадумцаў. Аднак маштаб яе вымяраецца не колькасцю прысутных. Блукаючыя "зоркі" габрэйскага тэатра зноў заззялі ў Мінску, на сваёй радзіме (як ні дзіўна гэта гучыць). Цяпер, праз дзесяцігоддзі, мы зноў бачым каштоўнасць гэтых тэатральных дыяментаў. Дадзеная выстава — адзін з крокаў у накірунку адраджэння і ўзбагачэння ўласнай культуры.

**Таццяна КОМАНАВА**



*"Круглы стол" "К"*

# ЦІ ЛЁГКА СЁННЯ БЫЦЬ МАЛАДЫМ... АКЦЁРАМ, РЭЖЫСЁРАМ?

**З нагоды агляду-конкурсу творчай моладзі Бацькаўшчыны наша рэдакцыя вырашыла правесці "круглы стол" па тэме: "Праблемы маладога прафесіянала тэатральнага мастацтва". Адзначым, што за ўсе сем гадоў свайго існавання выданне ўважліва сачыла за дэбютамі маладых творцаў сцэнічнага мастацтва. Дастаткова было назваць толькі мега-рубрыкі газеты: "Мастыхін", "БОБ", "КіТ", каб удзельнікам "круглага стала" стала зразумела: гаворка пойдзе пра маладое пакаленне, якое амаль штогод папаўняе прафесійныя і акадэмічныя трупы тэатраў. Толькі нас апошнім часам насцярожвае ўстойлівая тэндэнцыя ў айчынных СМІ — упрыгожваць слыннымі імёнамі творцаў, якім даўно за 40 гадоў, малады акцёрскі цэх. Да прыкладу, Зоя Белахвосцік, Алена Сідарава, Віктар Манаеў... да гэтае пары лічацца моладдзю Купалаўскага тэатра! Тое самае назіраецца і з цэхам рэжысёраў. Прадстаўнікі mass-media, не ведаючы аніводнага новага імя ў тэатральным мастацтве, не задумваючыся, пішуць: "малады і таленавіты рэжысёр" — Мікалай Пінігін, Якаў Натапаў, Віталь Баркоўскі... Безумоўна, гэты спіс можна прадоўжыць, калі не ўлічваць узрост майстроў і колькасць пастановак за плячыма. Пастановак, якія да гэтай пары некаторымі журналістамі "заганяюцца" ў катэгорыю "эксперымент". Іншымі словамі, паводле афіцыйнай версіі, да актыўна дзеючых маладых прафесіяналаў сцэны прылічваюць заслужаных і папулярных.**

**Шчыра кажучы, абвінаваціць журналістаў лёгка, але будзе несправядліва, бо за апошнія пяць гадоў так і не прагучала ў мастацтве аніводнага імя акцёра ці рэжысёра, якім сёння да 35 гадоў.**

**Таму, рыхтуючы пытанні і вызначаючы праблематыку нашых дыскусій, мы звярнуліся да тэарэтыкаў мастацтва з просьбай выступіць па наступных тэмах:**

**Т.Ратабыльская. "Лёс акцёра, учарашняга выпускніка БелАМ";**

**Л.Манакова. "Ці лёгка быць маладым рэжысёрам сёння?";**

**Т.Арлова. "Студыя і студыйны рух на Беларусі".**

**Прапануем вам скарочаны запіс "круглага стала" (ён доўжыўся 2,5 гадзіны). Мы "агучылі" на палосах найбольш вострыя пытанні, якія ставіліся ў час дыскусіі ў Гродне як маладымі творцамі, так і знакамітымі прафесіяналамі...**

**Пасяджэнне "круглага стала" адкрывала галоўны спецыяліст аддзела тэатраў Міністэрства культуры РБ Ларыса Куксянкова.**

**Ад рэдакцыі "К" у ім бралі ўдзел:**

**Людміла Крушынская, галоўны рэдактар;**

**Жанна Васанская, член рэдкалегіі, рэдактар аддзела тэатра і кіно;**

**Барыс Крэпак, член рэдкалегіі, рэдактар аддзела выяўленчага мастацтва;**

**Таццяна Команава, спецкарэспандэнт;**

**Генадзь Жынкоў, фотакарэспандэнт.**

**Дарэчы, падчас працы "круглага стала" галоўны рэдактар нашай газеты ўручыў прыз ад журналістаў "К" Віктару Клімчуку, якім мы адзначылі рэжысёра за Гран-пры фестывалю "Белая вежа".**







THE BEST!











# “Круглы стол” “К”



Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ, дацэнт БелАМ.



Уладзімір РЫЛАТКА, першы намеснік міністра культуры Беларусі.



Віталь БАРКОЎСКІ, мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я.Коласа.



Таццяна АРЛОВА, кандыдат мастацтвазнаўства.



Валянцін СЕРАДА, акцёр Рускага тэатра.



Лідзія МАНАКОВА, прафесар БелАМ.



Жанна ВАСАНСКАЯ.

**Жанна ВАСАНСКАЯ (вядучая "круглага стала"):** Калі ласка, Таццяна Анатолеўна!

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ:** Кожны год развітанне з акцёрскім курсам Акадэміі мастацтваў ператвараецца ў свята са слязьмі на вачах. Дыпломнікі намагаюцца паказаць акрамя таленту яшчэ і свой калектыў як арганізм аднадумцаў. У першую чаргу, **калектыў студыйнага тыпу.** Звычайна на сцэне студыйнага тэатра пануе дух: адзін за ўсіх і ўсе за аднаго. І менавіта гэтая атмасфера аднадумцаў, адной сям'і, агульнага дыхання прыцягвае, эмацыйна настройвае. І кожны раз нам, педагогам, хочацца, каб гэтая акцёрская сям'я не распалася, а працягвала існаваць адным тэатрам, адной трупай.

Але жыццё распараджаецца па-іншаму. І часцей за ўсё, акцёр, вырваны з творчага асяроддзя студэнцтва, якое яго "карміла", апынуўшыся ў іншым мікраклімаце — прафесійным тэатры, дзе аб студыйнасці не можа ісці і гаворкі, дзе ён, пакінуты сам на сябе і павінны даказваць штодзённа свае навыкі і прафесійнасць сілай хору незнаёмай трупы, застаецца безабаронны. Мала хто гладка перажывае гэты рэзкі злом паміж студыйнасцю і жорсткімі ўмовамі існавання ў сталічнай ці перыферыйнай трупе. Малады акцёр робіцца адным "воінам у полі".

І таму жанр, скажам, дыпломнага спектакля з кожным годам набывае рысы "настальжы", дзе кожны мае сваё сола. Мы ўчора глядзелі і захапляліся цудоўным спектаклем "Туцці-фруцці", які быў створаны Лідзіяй Манаковай, студэнтамі IV курса і Паўлам Адамчыкам. Спектакль элегантны, яскравы, эфектны, веер пластычных нумароў. Глядзіш на сцэну і шчыра захапляешся — як цудоўна валодаюць выпускнікі псіхафізікай!.. І тут жа з болем думаеш — што з імі будзе далей? Няўжо і гэтыя растворацца ў бездані вялікага тэатральнага свету? І мімоволі прыгадваеш: а няўжо быў менш таленавіты папярэдні выпуск Лідзіі Манаковай? Ні ў якім разе. Хіба можа забыцца на пластычна-адточаны, эксцэнтрычны, амаль каскадзёрскі спектакль "Лысая спявачка"? Акцёры, дзякуючы рэжысуры Мікалая Пінігіна, раскрылі і давялі да гратэску рытуал жыцця без удзелу Чалавека. На тым жа курсе былі створаны пастаноўкі "Азірніся ў гневе", "Безымянная зорка". Амаль што ўвесь курс быў пераведзены ў Купалаўскі тэатр. **Дзе яны сёння?**

**Рэпліка з залы:** І сапраўды, дзе?

**Т.РАТАБЫЛЬСКАЯ:** Буду браць канкрэтныя прозвішчы. Ігар Блінкоў — хадзіў у эпізодах, таптаўся ў маўклівых мізансцэнах... **не вытрымаў і паехаў ізноў вучыцца ў "ВГИК".** Павел Адамчыкаў — зноў-такі падвысіў узровень масоўкі Купалаўскага тэатра, **пайшоў у педагогіку, бізнес.** Неяк жыць трэба. Алена Анохіна — выйшла ў "Ромуле", "Карліку Носе", патанцавала ў "Крывавай Мэры" і **за чатыры гады нідзе самастойна сябе не праявіла.** Іна Аляксеева — **нават зусім не мела ролі,** з'ехала з танцавальным ансамблем кудысьці за мяжу. Юля Высоцкая — у Англію. Агульны ўлюбёнец, бліскучы імправізатар Трухмянёў, уладальнік намінацыі "містэр сіnema", дарэмна страціў чатыры гады на прафесійнай сцэне **і з'ехаў у тэатр Рамана Віктюка.** Рымарава, акрамя ўводаў, іграе ў спектаклі "Парфён і Аляксандра". І добра іграе, хаця драматургія пастаноўкі на ўзроўні дзіцячай прымаўкі "Аня + Ваня = каханне".

Чаму так здараецца? Зваліць усё на тэатральную школу — маўляў, дрэнна гаворыць? Няпраўда. Віктюк узяў Трухмянёва, Волчак вучыцца на курсе Табакова... **Выпускнікі, яркія акцёрскія індывідуальнасці, паспелі заявіць пра сябе — Віталь Радзько, Алег Гарбуз, Ігар Сігоў...**

Відаць, справа не ў катэгорыях: дрэнныя ці добрыя акцёры. Відаць, справа ў нейкім **несупадзенні тэатральнай школы і сучаснага тэатра. У чым жа яно?** Скажу толькі, акадэмія апярэджвае на 2-3 крокі працэсы тэатральнага жыцця сённяшніх прафесіяналаў. Школа як быццам знаходзіцца ў вольным палёце, каб падрыхтаваць сапраўднага акцёра, здольнага стварыць тэатр наступнага тысячагоддзя. Гэты акцёр — універсальнага тыпу, "сінтэтычны". Ён добра валодае не толькі голасам і целам, але і здольны да рознахарактарнага існавання на сцэне.

Крыўдна, што большасць навыкаў акцёрскага рамяства застаецца незапатрабаванай у прафесійным тэатры. Іншы раз думаеш, убачыўшы кагосьці з нядаўніх выпускнікоў на сцэне: як хутка яны развучыліся пластычна рухацца на сцэне! Словы, вымаўленыя са сцэны, у зале ўжо не чутныя... Справа ў тым, што нашы акцёры не падрыхтаваныя да псіхалагічнага існавання ў рознаўзроставай трупе. І, на жаль, робіцца відавочным кантраст паміж выдатным валоданнем прафесіяй на сцэне вучэбнага тэатра і душэўнай крохкасцю, наіўнай псіхафізікай на прафесійных падмостках.

**Людміла КРУШЫНСКАЯ:** Чаму так адбываецца?

**Т.РАТАБЫЛЬСКАЯ:** Часткова — з прычыны недастатковага вопыту. Аналізуючы спектаклі апошняга дзесяцігоддзя, я зрабіла выснову — дыпломныя афішы спектакляў маюць "гвозд" —эфектны канцэрт, шоу з дэманстрацыяй эцюдаў, пакладзенае на тэкст, напрыклад, Шэкспіра альбо Брэхта, — карацей, класічны тэкст, пакладзены "па-эстраднаму". **Спектаклі псіхалагічныя, з традыцыйнай драматургіяй чамусьці адыходзяць на задні план.** Больш за тое, усё часцей выконваюцца "Сцэны з...", а не п'еса цалкам, у аўтарскім варыянце. Нават назвы мяняюцца. Заўважнай стала тэндэнцыя рабіць своеасаблівы мантаж з найбольш эфектных фрагментаў п'есы. А мы, гледачы, бачым потым "выпусташанага" Шэкспіра або Метэрлінка... Безумоўна, усё вышэйзгаданае прывучае маладога акцёра мысліць "эпізодам", існаваць у "спрынтэрскіх" ролях.

Камерная структура дыпломных спектакляў прывучае таксама да драматургіі стварэння вобраза, якую я б назвала "драматургіяй статычнай", дзе дынаміка спектакля ўзнікае не ад унутранага развіцця ролі, а ад рытму змены вобразных масак. Таму я перакананая, што студэнцкі тэатр мог бы стаць выдатнай школай сталення для маладых акцёраў, рэжысёраў, сцэнографаў. Гэта — цудоўная ідэя.

**Л.КРУШЫНСКАЯ:** Здаецца, ёсць што сказаць па гэтым пытанні першаму намесніку міністра культуры Уладзіміру Пятровічу Рылатку... Калі ласка!

**Уладзімір РЫЛАТКА:** Я хачу шчыра падзякаваць усім і, у прыватнасці, газеце "Культура" за ўвагу да агляду творчай тэатральнай моладзі. Магчыма, мы з вамі з'яўляемся сведкамі нараджэння самага каштоўнага тэатральнага фестывалю, бо ён дапамог нам зазірнуць у трэцяе тысячагоддзе, у будучыню беларускага тэатра. Мы ўдзячны гродзенцам. Яны паклапаціліся пра тое, каб усім было ўтульна, каб склалася творчая атмасфера, і, я ўпэўнены, моладзь адчувала сябе добра.

Выказваліся думкі пра неабходнасць захавання выпускных курсаў у якасці тэатральных арганізмаў, а таксама пра стварэнне спецыяльнага эксперыментальнага тэатра-студыі для маладых. **Ідэя спакуслівая, бо "студыйны рух" сапраўды з'яўляецца каталізатарам творчай свабоды маладых артыстаў.** Але мэты і змест навучання павінны быць набліжаны да рэальнага тэатральнага жыцця, трэба ўмець "прыстасавацца" да сітуацыі, дзе прафесійнае партнёрства не заўсёды ёсць працяг асабістых стасункаў.

Што да стварэння тэатра-лабараторыі, дык вопыт сведчыць, што рэпертуарны тэатр павінен мець рознаўзроставую трупу, бо гэтага патрабуе само жыццё і законы мастацтва. **Так было з Маладзёжным тэатрам, з тэатрам Мазынскага. Ідэя тэатра "Дэбют" трансфармавалася ў антрэпрызны тэатр.** Бачыце, законы жыцця ўнеслі свае карэктывы, таму ствараць студыю...

**Т.РАТАБЫЛЬСКАЯ:** ... на базе студэнцкага тэатра, вучэбнага тэатра...

**У.РЫЛАТКА:** ... развіваць на базе студэнцкага тэатра прафесійнае сцэнічнае жыццё? Наладзіць сістэматычны пракат спектакля? Ведаеце, студэнцкі тэатр Шчукінскай вучэльні дзесяткі гадоў жыве натуральным тэатральным жыццём. Чаму? Бо толькі натуральныя тэатральныя ўмовы — сцэна для артыста, музыканта — з'яўляюцца той школай, тым настаўнікам, які дае ўсё! Сцэна — гэта палігонам для маладога творцы. Таму ёсць сэнс максімальна развіваць сам студэнцкі тэатр. Фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выдзеліў Акадэміі мастацтваў грант для яго абсталявання; у перспектыве знойдзем сродкі на наступны этап, каб тэатр умацаваў сваю матэрыяльную базу, якая б магла з большага адпавядаць прафесійнаму тэатру. І другое: моладзь павінна як мага раней прыйсці, як той кулік на сваё балота, на сцэну прафесійнага тэатра. І вельмі добра было б, калі б мы прымалі дзяржаўны іспыт не толькі ў Акадэміі, але і ў тэатрах у Мазынскага, Раеўскага, Луцэнкі, выпрабоўваючы пачаткоўцаў у розных ролях для таго, каб студэнцтва было паглыблена ў атмасферу сваёй прафесіі значна раней. Акадэмія ўжо ідзе гэтым шляхам, але патрэбная ўзаемнасць з тэатрамі не толькі ў сталіцы...

**Рэпліка з залы:** Але і ў правінцыі...

**У.РЫЛАТКА:** Правінцыяй нашыя рэгіёны цяпер не назавеш... Гэта ўсё тэатральныя цэнтры... У Мінску ж няма вартаснага фестывалю, а вось у Гомелі ёсць, у Брэсце ёсць, у Гродне — нарадзіўся. Так што, паважаныя калегі, робім мы справу сур'ёзную і карысную, але галоўнае, каб мы ўсе былі аднадумцамі. Бо моладзі патрэбна моцная прафесія, творчая свабода і клопат грамадства і дзяржавы...

**Лідзія МАНАКОВА:** Я заслухалася выступленнем Таццяны Анатолеўны Ратабыльскай. І шмат з чым згодная... Я слухала Уладзіміра Пятровіча Рылатку і таксама пагадзілася з ягонымі аргументамі... Па сваёй натуры, відаць, я згодлівы чалавек. Але, у той жа час, я маю сваю думку наконт праблемы творчасці маладых.

Якая праблема ў нас зараз вызначылася? Маўляў, акадэмія рыхтуе спецыялістаў без уліку запатрабаванняў сучаснага тэатра. Нехта з усходніх мудрацоў сказаў: **настаўнік — гэта не той, хто напаўняе сасуд, а той, хто запальвае агонь мары ў сэрцы вучня.** І мы, педагогі акадэміі, разумеем: калі табе ўдаецца зацікавіць вучняў сапраўдным мастацтвам, марай творцаў, то гэтая мэта дасягнута. Мне здаецца, што ў першую чаргу акадэмія павінна рыхтаваць прафесіяналаў, людзей якія будуць служыць тэатру. Мы рыхтуем іх да рэалій сённяшняга мастацтва, а не гадуем ідэалізаваных рамантыкаў. Безумоўна, у кожнага свая ступень адоранасці і творчая індывідуальнасць... Ва ўсялякім разе педагогі акадэміі намагаюцца падрыхтаваць маладога прафесіянала і да самастойнага жыцця. Я маю на ўвазе самастойнасць у творчым жыцці. На гэтым пабудавана ўся наша праца. Да прыкладу, наш спектакль "Туцці-фруцці" не з'яўляецца толькі маёй пастаноўкай у традыцыйным разуменні спецыфікі тэатра. Гэты спектакль народжаны і створаны ўсімі тымі, каго вы бачыце на сцэне. Ім давалася заданне з канкрэтным накірункам. У апошняй кнізе Пітэра Брука гаворыцца пра накірунак, як пра важны момант працы рэжысёра. Дарэчы, і **нашыя студэнты спраўляюцца з пастаўленымі творчымі задачамі і дакладна іх праяўляюць у сваіх працах.** Я таксама сачу за творчасцю сваіх былых вучняў, якіх сёння тут узгадвала Таццяна Ратабыльская. Кожны быў індывідуальнай зорачкай у сцэнах акадэміі, а калі яны выйшлі ў вялікае тэатральнае жыццё, умовы прадыктавалі іншую творчасць. **Няздольны малады прафесіянал праявіць сябе толькі ў масоўках або ў спектаклях-казках.** Я не буду называць зараз канкрэтныя імёны, бо гэтая праблема агульная для ўсіх. **Маладымі людзьмі проста трэба займацца і цікавіцца ў тэатры.** Вось мы гаворым — кінула іх жыццё ў рэальныя абставіны... Канешне, кінула, раней ці пазней гэтак з усімі адбываецца. Так, а не інакш. Таму мы тут павінны выпрацаваць нейкія канкрэтныя прапановы, якія ў далейшым жыцці дапамогуць маладому творцу не разгубіцца і не кінуць любімую справу, апынуўшыся ў незнаёмым асяроддзі. Я працую ў тэатральнай установе шмат гадоў, і паверце мне, бачыла многа таленавітых рэжысёраў, нават з кожнага курса можна вылучыць два-тры чалавекі. У нас няма праблем, як наблізіць навучальны працэс да жыцця прафесійнага тэатра. Хутчэй, наадварот, таму што нашыя юнакі і дзяўчаты занятыя ў многіх пастаноўках сталічных тэатраў: у Купалаўскім, Маладзёжным, Рускім. Нядаўна я выступала на канферэнцыі ў акадэміі і зрабіла прапанову: **вызваліць IV курс ад вучэбнага працэсу і даць магчымасць студэнту-дыпломніку наблізіцца да сваёй прафесіі.** Барыс Іванавіч Луцэнка запрашае канкрэтных людзей на працу ў тэатр. Як бачыце, аніякай праблемы ў незапатрабаванасці маладога прафесіянала няма. Але той жа Барыс Іванавіч сказаў, што рэжысёры яму непатрэбныя. Я ніколі не хачу абвінавачваць у дадзеным выпадку, але ж катэгарычнасць заявы насцярожвае. Агульнавядома, што кожны тэатр прапагандуе сваю канцэпцыю існавання ў мастацтве, свой стыль. Вось перад намі сядзіць рэжысёр — былая мая вучаніца Наталля Башава. Працаздольная. У яе былі адметныя студэнцкія пастаноўкі... І цяпер яна актыўна працуе ў тэатрах. Але ж як у яе складваецца лёс рэжысёра? І хто сказаў, што індывідуальнасць Башавай абмяжоўваецца толькі спектаклямі-казкамі? Час ад часу прафесіянал павінен нешта ставіць і для рэпертуарнай афішы тэатра, але ж ён ставіць і блізкі, вынашаны матэрыял. Калі ўжо ёсць замысел, бачыцца рашэнне... **У маладога рэжысёра, не сакрэт, няма выбару.**

Мне бачыцца **студыя-лабараторыя,** якая б дапамагла маладому творцу праявіць сябе. Прычым гэтая новая лабараторыя ці студыя была б нейтральнай. Гэта значыць, малады рэжысёр мог бы рэалізаваць сябе на матэрыяле, які цікавіць яго сёння. Зноў жа, каб рэжысёр меў права выбару акцёраў... Прынамсі, гэтая прапанова **здольная стаць рэальнай пры дапамозе Міністэрства культуры Беларусі.** Пры наяўнасці такой студыі-лабараторыі і не стаяла б пытанне "А дзе маладая рэжысура?", і дыскусіі "круглага стала" не былі б актуальнымі...

**Віталь БАРКОЎСКІ (з залы):** Дазвольце сказаць мне...

**Ж.ВАСАНСКАЯ:** Думаю, што рэжысёрскі экспромт можа прыўнесці здаровы імпульс у наша абмеркаванне. Калі ласка, падыдзіце да мікрафона.

**В.БАРКОЎСКІ:** Анатоль Эфрас жыў у няпросты час і пры сустрэчы гаварыў часта наступнае: "Як склалася ваша жыццё ў мастацтве пра мастацтва?" У гэты час Ганчароў быў шэсць разоў лаўрэатам Сталінскай прэміі, пяць разоў — Дзяржаўнай, а таксама — Ленінскай. Аднойчы ён сказаў яшчэ больш "крута": "Уяўленне прадстаўлення ў прадстаўленні ўяўлення". Я гэта запомніў, і калі ў Польшчы ставіў "Чайку", палякі спыталіся, пра што спектакль. Я адказаў ім ганчароўскай фразай.

**Таццяна АРЛОВА:** ... І яны заблыталіся канчаткова.

**В.БАРКОЎСКІ:** Яны заблыталіся, але потым ім спадабалася, і мы цудоўна кантактавалі. І ёсць яшчэ такая фраза: "Перспектыва бесперспектыўнасці"...

Да чаго ўсё гэта? Я думаю, што мы не вельмі ўважлівыя адзін да аднаго, не вельмі паважлівыя, крыху бестактоўныя ў адносінах да нашай будучыні. На адной з нядаўніх канферэнцый я прапанаваў кожнаму рэжысёру ўзяць у тэатр, хаця б на адну пастаноўку, маладога спецыяліста. Паставіўшы ў адным тэатры спектакль, можна памяняць тэатр і другую пастаноўку ажыццявіць у іншым месцы. Ужо гэтыя два выпрабаванні могуць выявіць патэнцыял рэжысёра-пачаткоўца. Бо тэатр — найскладанейшы арганізм, аднак ён цудоўна загартоўвае. Мне думаецца, што тут не хапае нейкага "падземнага перахода" паміж Акадэміяй мастацтваў і будучым месцам працы маладога рэжысёра.

Мне падабаецца, што мінула пяць гадоў, а вы сочыце за далейшым творчым лёсам сваіх выпускнікоў. Гэта рэдкі талент — цаніць свайго вучня таму, што сам у яго нешта ўкладаеш. Я ведаю, што на гэта нестае часу. Але нейкім чынам мы павінны іх весці, хаця б першы час, дапамагчы стаць на ногі.

Я ўжо распавядаў калісьці гісторыю пра памідоры. На рынку разам з добрымі каліўцамі мне трапіліся і хілыя. Я спачатку хацеў іх выкінуць, а потым усё-такі пасадзіў. Увосень, калі я прыехаў на дачу, я ўбачыў, што здаровыя кусты ўжо ссохлі, а гэтыя цудоўна разрасліся. Ніхто не чакаў такога. Таму, хто ведае, які талент здольны прабіцца з "кволых" пачаткоўцаў — акцёраў і рэжысёраў. Давайце будзем уважлівымі да іх, бо ў нас катастрофа і з акцёрамі, і, у большай ступені, з рэжысёрамі. Вось я зараз кажу: "катастрофа", — а мы, усе таленавітыя людзі, сядзім і нічога не робім. Патрэбна канкрэтнае ўмяшанне. Зараз вакол нас у Літве, Расіі, Украіне, Польшчы — усюды квітнее тэатральнае мастацтва. А мы знаходзімся ў вельмі складаным становішчы. Патрэбна прызнацца сабе ў гэтым.

**Ж.ВАСАНСКАЯ:** Нельга не пагадзіцца з былым вядомым "студыйцам" Баркоўскім. Дык усё ж: быць ці не быць эксперыментальнай студыі для моладзі?

**Таццяна АРЛОВА:** Нам паабяцалі "круглы стол", а гэта значыць, узаемадзеянне, перакрыжаваную размову, магчымасць пагля дзець адзін аднаму ў вочы. А атрымалася франтальная мізансцэна, і я баюся, што нашыя размовы і добрыя пажаданні — усё, што мы сёння робім, застанецца з аднаго боку, а рэальнае пачуццё людзей, пра якіх мы размаўляем, — з другога боку, і нічога не зменіцца. Паверце мне, што моладдзю заўсёды ў тэатрах цікавяцца больш, чым іншымі. Многія з прысутных апынуліся на фестывалі па маёй "наводцы". Мне здавалася, што гэтая размова павінна быць для маладых, бо яна важная ў першую чаргу для іх, а не для нас, якія і так досыць шмат займаліся гэтымі праблемамі.

Прабачце за паўтарэнне ісцін, але мы сочым сёння за маладымі ў першую чаргу таму, што гэта — жыццё нашага тэатра заўтра. І калі гаварыць, што тэатральная школа павінна крыху апераджаць сённяшні тэатр і ары-





**Уладзімір МІШЧАНЧУК, дэкан тэатральнага факультэта Беларускай акадэміі мастацтваў:**

# ТАЎЧЫ ВАДУ Ў СТУПЕ?

*МЕРКАВАННІ ПРАФЕСІЯНАЛАЎ, ШТО ВЫКАЗАЛІСЯ ПАСЛЯ ЗАКАНЧЭННЯ “КРУГЛАГА СТАЛА”, бо час, які нам адвялі, быў выкарыстаны. На жаль. Але, як нам падалося, дыскусія ў зале, а потым і за яе дзвярыма, толькі разгаралася...*

Ужо каля трыццаці гадоў я займаюся творчасцю, пятнаццаць з іх — педагогікай, і заўсёды я сутыкаюся з праблемай незапатрабаванасці маладых акцёраў, рэжысёраў. Адна з неабходных перамен на сённяшні дзень — карэнная перабудова працы педагогаў, як гэта, напрыклад, склалася ў нашай Акадэміі. Патрэбна абавязкова ўлічваць патрабаванні сённяшняга дня.

Мы перыядычна ладзім прагляды і запрашаем да сябе рэжысёраў тэатраў, тых людзей, ад якіх залежыць будучыня нашых выпускнікоў. Для нас вельмі важна, у якія рукі трапляе наш былы студэнт, у які тэатр. Бо вельмі шмат залежыць ад таго, якую ўвагу ён адчуе да сябе на пачатку ўласнага станаўлення.

Сёння мы **таўчэм ваду ў ступе**, размаўляючы пра тэатральную школу. Маўляў, ва ўсім вінаватая яна. Нядаўна мы наладзілі майстар-класы, куды запрасілі прадстаўнікоў тэатраў. Аднак далёка не ўсе адгукнуліся на нашае запрашэнне. А сёння я зноў чую пытанні людзей, якія не ведаюць, чым жыве Акадэмія.



Асобна хачу сказаць пра рэжысёраў. Яны ў нас існуюць, і сярод іх ёсць шэраг па-сапраўднаму цікавых і таленавітых асоб. Аднак і яны не маюць належнай увагі да сябе. Большасць з іх, сапраўды, аказаліся нікому не патрэбнымі. Яны спрабуюць штосьці рабіць, заяўляць пра сябе, аднак не так часта, як хацелася б, атрымліваюць водгук. Хочацца спадзявацца, што фестываль хоць крыху зменіць такое становішча. Я ў гэта веру.

***На “круглым стале” мне не давялося выказаць свае думкі пра сучасны стан маладой беларускай сцэнаграфіі. Не хапіла часу... Хаця праблема запатрабаванасці тэатральных мастакоў-пачаткоўцаў сёння паўстала не менш востра, чым, скажам, праблема маладых рэжысёраў, акцёраў, драматургаў.***

**Барыс КРЭПАК, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі:**

# “У ЧЫІХ РУКАХ ЛЁС СЦЭНОГРАФА?”



Д.Волкава. Макет дэкарацый да спектакля “Рамэа і Джульета”.



Сем гадоў таму народны мастак Беларусі Барыс Герлаван узяў курс сцэнографаў у тэатральна-мастацкім інстытуце, змяніўшы на гэтай пасадзе Яўгена Чамадурава. З таго часу адбыліся тры выпускі з... трох чалавек. У 94-м інстытут скончыла Вольга Сідзельнікава, у 96-м — Вольга Грыцаева, і ў 95-м — яшчэ адна дзяўчына, якая паехала за межы Беларусі. У наступным годзе адбудзецца наступны, на жаль, апошні выпуск сцэнографаў, бо **набору на аддзяленне тэатральна-дэкарацыйнага мастацтва за апошнія пяць гадоў не было.**

Парадокс: рэжысёраў набіраюць, а мастакоў-дэкаратараў — не. З кім жа будуць працаваць рэжысёры тэатраў, калі мець на ўвазе, што колькасць тэатраў павялічваецца? Няўжо трэба будзе пачынаць усё, як кажуць, з чыстага аркуша?

Так, сёння праблем у нацыянальнай сцэнаграфіі безліч. У свой час нашы буйныя мастакі сцэны, у тым ліку Аскар Марыкс, Васіль Галубовіч, Армен Грыгар'янц, Іван Ушакоў, Аляксандр Салаўёў, Яўген Нікалаеў, Яўген Чамадураў, Павел Масленікаў і іншыя, прынеслі славу беларускаму тэатру.

Іх ведалі ў твар, дзяржава іх цаніла. Яны першымі ў шэрагу мастакоў іншых прафесій атрымлівалі заслужаныя званні, прэміі, узнагароды. Хтосьці з іх ужо пайшоў з жыцця, хтосьці знаходзіцца на пенсіі, але пасля іх у тэатрах утварылася нейкая пустата, запоўніць якую маладыя яшчэ не ў стане. Але гэта не іхняя віна. Бадай, адзінае выключэнне — Барыс Герлаван, які прыйшоў у Купалаўскі тэатр яшчэ студэнтам.

Тым не менш патэнцыял у будучых мастакоў-сцэнографаў вялікі. І пра гэта сведчаць некалькі выстаў, што адбыліся сёлета ў Мінску і Гродне. Вось іхнія імёны: Вольга Васілёнак, Андрэй Меранкоў, Віталь Трафімаў, Ганна Мятліцкая, Таццяна Мацэвіч, Алеся Снапок, Дар'я Волкава.

Навошта былі патрэбны гэтыя выставы? Барыс Герлаван лічыць, што такія экспазіцыі маюць некалькі задач, бо дазваляюць убачыць хаця б прыблізна заўтрашні дзень нашых тэатраў. Выставы даюць магчымасць студэнтам пафантазіраваць у межах прасторы і аб'ёмаў макета, у колерарытміцы дэкарацыйных эскізаў і касцюмаў і, адначасова, паставіць канкрэтны спектакль на канкрэтнай сцэне ў залежнасці ад тэхнічных і фінансавых магчымасцей сцэнічнага вырашэння. Таму не выпадкова на выставах мы бачым шмат работ, так бы мовіць, з вялікай ступенню свабоды выбару тэхнічных і пластычных сродкаў, незалежна ад канкрэтнай прывязкі спектакля да той альбо іншай сцэны. З другога боку, такое афармленне спектакляў, як “Гамлет”, “Калігула” альбо “Трыстан ды Ізольда” В.Васілёнак, “Адвечная песня” і “Кармэн” В. Трафімава, “Пунсовая кветачка” Г. Мятліцкай, “Дэман” і “Пінская шляхта” А.Снапок, “Навальніца” і “Рамэа і Джульета” Д.Волкавай, “Кароль Лір” і “Ідылія” А.Меранкова, не кажучы ўжо пра таленавітыя творы больш вопытных В.Сідзельнікавай і В.Грыцаевай, магло б быць рэалізавана на сцэнічнай пляцоўцы.

Але менавіта тут і ўзнікаюць сур'ёзныя пытанні, галоўнае з якіх: **каму яны патрэбныя, гэтыя сцэнографы?** Падсвядома ўсе гэтыя выставы разлічаныя не толькі на ўдзячны “погляд” шырокага гледача. Наважваюся думаць, што яны былі накіраваны пераважна на тых, ад каго залежыць заўтрашні лёс маладых сцэнографаў, гэта значыць, на галоўных рэжысёраў, дырэктараў тэатраў, чыноўнікаў Міністэрства культуры. Але — на жаль! Зазвычай, **ніхто з іх не наведвае гэтыя вернісажы, ніхто з іх не “шукае таленты”, якія нібыта гадуюцца тут, побач, і так неабходныя сённяшняму і заўтрашняму тэатру.**



Адна з “лялечных” работ Н.Нерсікян.

Вы думаеце, тэатры перанасычаныя мастакамі? Зусім не! Некаторыя, наогул, працуюць без штатнага сцэнографа, а здараецца і так, што стаўка нават асістэнта мастака “перадаецца” ці то загадчыку дэкарацыйнага цэха, ці то самому дырэктару тэатра. У свой час так было ў Тэатры-студыі кінаакцёра, у Маладзёжным тэатры... Аднак, сёння пра пасаду хаця б асістэнта мастака даводзіцца толькі марыць.



В.Трафімаў. Макет дэкарацый да спектакля “Пінская шляхта”.

Галоўныя мастакі віцебскага Коласаўскага тэатра Уладзімір Матросаў і мінскага імя Горкага Уладзімір Чарнышоў сказалі мне, што яны з задавальненнем узялі б да сябе на працу асістэнтаў, але **ў іх няма для гэтага адпаведных пасад у штатных раскладах.**

Прафесія сцэнографа — унікальная і вельмі ранімая. Тэатральнаму мастаку трэба, каб яго запрасілі ў тэатр спачатку хаця б у якасці дэкаратара альбо на асобныя спектаклі, бо яму неабходная, перадусім, практыка. Бо зразумела, што нават таленавітыя выставачныя эскізы без іх рэалізацыі застануцца толькі на ўзроўні праектаў. Безумоўна, маладым мастакам нестае загартоўкі, смеласці, нахабства, каб самім прыйсці ў тэатр і сказаць: я да вас прыйшоў, вазьміце мяне, паспрабуйце, — і я зраблю геніяльны спектакль. На жаль, гэтым якасцям у Акадэміі мастацтваў не навучаюць. А трэба было б!

Ці ёсць будучыня ў “цудоўнай сямёрцы” Барыса Герлавана? Ці паедзе, скажам, А.Снапок на сваю радзіму, у Гомель, каб у мясцовым тэатры яе талент зазіхацеў новымі гранямі? Ці зробіцца В.Трафімаў вялікім сцэнографам альбо пойдзе ў “чысты жывапіс”, як, дарэчы, і некаторыя ягоныя калегі, якія паспяхова дэманструюць свае жывапісныя творы за мяжой? А можа, Г.Мятліцкая зробіцца пісьменніцай і будзе “ілюстраваць” свае раманы? Вопыт у яе ўжо назапашаны: прыгожыя касцюмы да ўласнай аповесці “Дванаццаць дзяўчат” мы ўжо бачылі на выставе ў тэатры “Вольная сцэна”... А які лёс чакае В.Сідзельнікаву і В.Грыцаеву? Вельмі хацелася б, каб усё склалася ўдала.



А.Меранкоў. Макет да спектакля “Юнона і Авось”.

Шаноўныя галоўныя рэжысёры і дырэктары правінцыйных і сталічных тэатраў! Шаноўнае Міністэрства культуры! Зразумейце, савецкая школа тэатральна-дэкарацыйнага мастацтва разбурана, а новая — нацыянальная — яшчэ не з'явілася. **Няўжо ўсё трэба пачынаць з нуля? Ад вас залежаць лёсы не толькі асобных мастакоў-сцэнографаў, сапраўды таленавітых і здольных. Ад вас залежыць лёс усёй беларускай сцэнаграфіі, а, значыць, і ўсяго тэатральнага мастацтва.**

***Круглы стол газеты “Культура” завяршыўся, хаця далёка не ўсе з жадаючых змаглі выступіць: бракавала часу. Канешне, праблема моладзі ў тэатры — адна з найактуальных. Хвалюе яна і афіцыйных прадстаўнікоў тэатраў, і саміх маладых творцаў. Не пакідае яна абыякавымі і нас, “культура”ўцаў. Мы з задавальненнем працягнем “круглы стол” на старонках нашай газеты. А вас заклікаем далучыцца да дыскусіі і дасылаць на адрас рэдакцыі свае роздумы і меркаванні наконт праблемы моладзі. Хацелася б, каб з вашым актыўным удзелам рэха фестывальнага “круглага стала” адгукнулася не толькі на старонках нашай газеты, а, і ў першую чаргу, у канкрэтных справах па падтрымцы тэатральнай моладзі.***

# СІРОТАМ У НАВУЦЫ?

літычных свабодаў. Выдаваліся кніжкі на польскай мове, украінскай, на ідыш. Стварaліся нацыянальныя культурніцкія таварыствы так званых малых народаў Аўстрыйскай імперыі. Кракаў ператварыўся у своеасаблівы П'емонт — вольны горад для польскага вызвольнага руху, што немагчыма было на той перыяд на польскіх землях, якія пасля падзелу Рэчы Паспалітай трапілі пад Прусію і Расію. У Кракаў, у Вавельскі замак, дзе пахаваныя польскія каралі, быў перавезены прах Адама Міцкевіча, Юліюша Славацкага і Цыпрыяна Норвіда. Таксама быў насыпаны вялікі курган Касцюшкі, дзе некалькі пакаленняў палякаў кляліся ў вернасці айчыне, кляліся пакласці ўсе свае сілы і кроў дзеля яе адраджэння. А Львоў, дзе таксама расквітнела польская культура, стаўся вольным горадам і для ўкраінцаў.

Але адраджэнскія працэсы, што адбываліся ў Галіцыі, уплывалі і на Беларусь. Трэба ўспомніць, што ў Львове і Кракаве выдаваліся кніжкі і па-беларуску. Гэтак у 1891 годзе выйшла знакамітая "Дудка беларуская" Францішка Багушэвіча. Кракаў і Львоў — былі прыкладам культурна-нацыянальнага руху для Беларусі і астатняй Украіны. Так што прадстаўнікі Беларусі на сесіі "Галіцыя: малая айчына — чыя і дзе?" былі не пабочнымі назіральнікамі.

Увазе слухачоў, якія ў асноўным з'яўляюцца аспірантамі гуманітарных факультэтаў ВНУ Кіева, Львова, Мінска, Горадні, Варшавы, Масквы, былі прапанаваныя наступныя тэмы лекцыйных заняткаў: "Памяць гістарычная і цывілізацыя (гісторыя рэгіёна, назвы, народ і яго культура)", дзе таксама закраналіся гісторыя стасункаў паміж Польшчай і Вялікімі княствам Літоўскім, "Гарады і іх архітэктура", "Шматмоўнасць і шматнацыянальнасць літаратуры Галіцыі", "Малыя айчыны — крэсы — памежжа", "Семінар па жыцці і творчасці Бруна Шульца" і г.д.

Лекцыі і семінары праходзілі ў Міжнародным цэнтры культуры Кракава, Інстытуце польскай філалогіі, у Цэнтры габрэйскай культуры і Collegium Maius (галоўным корпусе Ягелонскага універсітэта), які захаваўся ў амаль некранутым выглядзе з часу яго адкрыцця ў 1364 годзе. Слухачы школы могуць пахваліцца, што пілі з фантанчыка, з якога калісьці мог піць Францыск Скарына, калі набываў тут сваю навуковую ступень доктара філасофіі.



Замак Дунаец у Нядзіцы.

А самымі багатымі на ўражанні для слухачоў школы сталіся экскурсія па старажытным Кракаве і падарожжа па заходняй Галіцыі. Невялікая экспедыцыя наведала гістарычную сталіцу здабыцця солі ў Польшчы — Вялічку, дзе яе ўдзельнікі спусціліся ў найстаражытнейшую ў Еўропе шахту, якая вядомая з 1125 года. Цяпер там Музей капальні солі і санаторый "Кінга" для астма- і алергахворых. Шахта мае дзевяць узроўняў да 327 метраў углыб і каля 300 кіламетраў агульную даўжыню галерэй. Пад зямлёю знаходзяцца зіхаткія залы-капліцы, дзе стаяць выразаныя з солі фігуры святых. На глыбіні 80 метраў ёсць Крышталны грот.



Капальня солі ў Вялічцы.

Слухачы таксама маглі пазнаёміцца з архітэктурай горада Новы Сонч, пакаштаваць гаючай вады ў горадзе-здраўніцы Крыніцы, наведаць там жа музей мастака-прымітывіста Нікіфора і пераначаваць у сапраўдным сярэднявечным замку ў Нядзіцы, пабываць у знакамітым польскім курорце — Закапанэ.

Магчыма, сесія Міжнароднай Гуманітарнай школы ў Кракаве стане традыцыйнай. А наперадзе ў школы — сесіі ў Кіеве і экспедыцыя для этнографаў і дыялектолагаў у Браслаўскі раён Беларусі.

**Серж МІНСКЕВІЧ,**
**наш спецкар**
*Кракаў — Мінск*

# “ПЯТЫ РАЗ БАРДЫ Ў НАС...”

***гэткімі словамі журналіст “Радыё Беласток” Юрка Ляшчынскі, які выступаў у якасці канферансье, распачаў у Доме культуры Бельска-Падляшскага фестываль “Бардаўская восень”.***

Пяць гадоў — першы "някруглы" юбілей. І ўсе гэтыя гады арганізатарам фестывалю быў Саюз беларускай моладзі ў Польшчы, а дапамагалі яму Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы і муніцыпалітэт Бельска-Падляшскага.

Ладзіўся фестываль наступным чынам: на працягу двух дзён на сцэне выступалі беларускамоўныя барды з Польшчы і Беларусі, на роўных спаборнічалі паміж сабой за глядацкія сімпатыі і балы, якія выстаўляла строгае журы. Пасля аб'яўлення пераможца — уладальнік Гран-пры і лаўрэаты. Зрэдчас, асобнымі нумарамі, выступалі з акустычнай праграмай рок-гурты.

Аднак сёлета, паколькі фестываль як-ніяк юбілейны, то і праходзіў ён не зусім звычайна. На гэты раз з бардаў былі запрошаныя толькі ўладальнікі Гран-пры і лаўрэаты фестывалю. Змаглі прыехаць Алесь Камоцкі, Андрэй Мельнікаў, Сяргей Мінскевіч, Кася Камоцкая, Лявон Вольскі (апошнія ўзнагароджваліся раней менавіта ў якасці бардаў, бо выступалі без сваіх рок-гуртоў).

Цяпер барды толькі адкрывалі канцэрт, а затым выступалі ў акустычным варыянце беларускія рок-гурты. У першы дзень гралі "Новае неба" і "Уліс", у другі — "Крыві" і "НРМ". Але выступленне рок-гуртоў на бардаўскім фестывалі не было самамэтай. А было як бы — "да падзеі". Рэч у тым, што на юбілейны бардаўскі фестываль быў запрошаны музычны праект "Народны альбом", у якім і бяруць удзел музыкі з гэтых гуртоў (плюс яшчэ мадэратар радыё "ВА" Аляксандр Крывашэеў — ён выконвае народную габрэйскую песню і дапамагае Лявону Вольскаму спяваць аўтэнтычны беларускі рэп). Лагічна, што гуртам няварта было ўпускаць нагоды выступіць са сваёй уласнай праграмай, раз яны ўжо ўсе сабраліся ў Бельску-Падляшскім.

Так, бардаў сёлета на "Бардаўскай восені" было мала, але "Народны альбом", дзе таксама ёсць песні з чыста бардаўскім выкананнем, не глядзеўся чужародным на гэтым фестывалі. Тым больш беларуская гісторыя міжваенных часоў, расказаная з вясёлым гумарам у спевах, не была незразумелая для публікі. Дый і музыкі, апранутыя ў каларытныя касцюмы, выконвалі свае нумары з вялікім артыстызмам, што проста зачароўвала гледачоў.

Ураўнаважаны, заўжды спакойны Міхал Анемпадыстаў, аўтар ідэі і тэкстаў "Народнага альбома", які на сцэне з'яўляецца ў абліччы вядучага, паведаміў, што Бельск-Падляшскі — гэта пачатак вялікага турнэ "Народнага альбома". І сапраўды, на сённяшні момант музыкі ўжо выступілі ў Познані, а трошачкі пазней будуць Люблін і Варшава.

А Юрка Асеннік — прадстаўнік Саюза беларускай моладзі ў Польшчы, галоўны арганізатар фестывалю — запэўніў, што наступныя фестывалі будуць, як раней, больш бардаўскімі, і, акрамя таго, будуць прызы за сатырычную і лірычную песні.

**Сямён ПТАХ**
*Бельск-Падляшскі — Мінск*

# ГЕРМАНІЯ БЕЗ МЕЖАЎ

*(Заканчэнне. Пачатак у № 38.)*

Да мастацтва немцы адносяцца з асаблівым імпэтам. Не тое, каб культывуюць яго ці трапятліва ўспрымаюць, хутчэй наадварот. Мастацтва для іх — частка арганічнага натуральнага жыцця, нават частка прыроды. Ім не ўласцівы супрацьстаўленні жыцця і мастацтва. І таму адносіны да твора мастацтва падмурак маюць пачуццёвую сувязь чалавека з прыродай і іншымі людзьмі. Твор мастака нібы "ачалавечваецца", яму надаюцца рысы амаль жывой істоты. Мабыць, таму і атрымліваць эстэтычную асалоду ў Германіі лічаць за лепшае ў "натуральна-прыродным" асяроддзі. Прынамсі, улетку. Калі глядзець спектакль — дык пад адкрытым небам у двары старажытнага замка, калі слухаць канцэрт — дык на беразе Рэйна ці на воднай гладзі канала, у засені старога парку і пры заслоне празрыстых фантанаў.



Паказальны ў гэтым сэнсе створаны вестфальцамі музей-парк "Мастацтва — паралельна прыродзе". На выспе дзікай прыроды, па сцежках якой трэба доўга ісці, прыслухоўваючыся да "перамоў" жабак, стракатання конікаў і спеваў птушак, упісаныя невялікія, не адразу прыкметныя выставачныя павільёны, драўляныя канцэртныя залы. Знаходзячыся на такім музеі-востраве, міжвольна ўзгадаеш створанае мастаком палатно з натуральнымі фарбамі рэальнага сонца. Параўнаеш гукі раяля і скрыпкі з ціхім шоргатам абуджанага начнога лесу ці стогнам начной птушкі. Інтуітыўна пазнаеш прывабнасць, хараство, але і абмежаванасць створанай чалавекам штучнай мелодыі і прыгажосць прыродай народжанай мелодыі.

Іншым разам паралельныя спалучэнні прыроды і мастацтва набываюць феерычны характар. Прыкладам — канцэрты класічнай папулярнай музыкі ў ландшафце барочнага замка Бенрад, з яго стаўкамі, каналамі, скульптурнымі кампазіцыямі.

Сімфанічны аркестр месцічца на паўадкрытай, у форме ракавіны пабудаванай эстрадзе. Гледачы сядзяць ці стоячы назіраюць за "сцэнай" прыроды, бо ўмовы правядзення святочнага канцэрта прыўзнімаюць прыродны краявід на подыум агульнага тэатралізаванага відовішча. А музычнаму рытму падтаквае гульня рухомых струмянёў фантана і светлавыя блікі ад пражэктараў. Кампазіцыя колеру, вады, музыкі і прыроды пад фінал выбухне сапраўдным феерверкам.

Леташняе знаёмства з сучасным нямецкім мастацтвам прымусіла мяне задумацца над тым, што сёння немцы, відаць, хутчэй эксперыментуюць не столькі са зместам і формай твора, колькі з нетрадыцыйнымі магчымасцямі яго функцыянавання, гэта значыць імкнуцца да незвычайнага кантэксту ўспрыняцця твора мастацтва. Думка простая і глыбокая: відавочна — калі выставіць нацюрморт старых галандцаў у інтэр'еры сучаснага кірмаша ці жанравыя сцэнкі Брэйгеля ў сучасныя свецкім салоне, — успрыняцце іх будзе з цэлай гамай новых асацыяцый і падтэкстаў.

Адной з такіх форм стварэння новага кантэксту з'яўляюцца часовыя сцэнічныя пляцоўкі — шматлікія ў Еўропе тэатры-"глобусы", скантруяваныя па ўзоры шэкспіраўскай сцэны канца XVI стагоддзя. Ёсць падобныя і ў Нойсе. Праўда, немцы не турбуюцца пра поўнае падабенства з арыгіналам. "Глобус" Нойса не драўляны васьміграннік, адчынены небу, а сучаснае круглае збудаванне з лёгкіх металічных канструкцый з трапецыяпадобнай сцэнай і паверхам-вежай (як у Шэкспіра). Там разыгрывалася "Камедыя памылак" знакамітага англійскага драматурга, весела, фарсава і, як любяць у нямецкім тэатры, — з натуралістычнымі дэталямі. Прыкладам — абліваюць па-сапраўднаму партнёра халоднай вадой, апранаюць на галаву рэальную вермішэль, а калі увасабляюць негра, дык вымазваюцца сажай з галавы да пят.

У мастацтве яны не баяцца на першы погляд несуадносных рэчаў: скажам, іграць Шэкспіра ў ваеннай форме пачатку XX стагоддзя ці паставіць у цэнтры геаметрычна правільнай вуліцы нямецкага гарадка фантан — фантастычную птушку, расфарбаваную ў афрыканскім стылі.



Канешне, у Германіі існуюць і традыцыйныя культурныя мерапрыемствы: арганныя канцэрты ў Кёльнскім саборы, акадэмічныя экспазіцыі Людвіг-музея, Бонскага музея сучаснага мастацтва. Але нават з гэтай "музейнай справы" немцы імкнуцца зрабіць нешта экстравагантнае.

Такім незвычайным экстравагантным музеем кіно і тэлебачання з'яўляецца, скажам, знакамітая вежа ў Оберхаўзене. Знешнім выглядам нічым не прыкметная, вежа ўражвае ўнутранай экспазіцыяй. Яна створана паводле прынцыпу падзорнай трубы. Вы ўздымаецеся па лесвіцы ўсё вышэй і вышэй да вяршыні вежы. На кожным глядацкім коле знаёміцеся з гісторыяй стварэння аптычнай дзяржавы і візуальна-тэхнічных прыстасаванняў. Тут можна паглядзець любімы фільм 30 — 40-х гадоў, убачыць цяпер напаўзабытых, а калісьці знакамітых, вядучых праграм, ці пастаяць на рэканструяванай здымачнай пляцоўцы трыццацігадовай даўніны. А каму не хочацца паспрабаваць сябе ў якасці тэлевядучага і паназіраць за ўласнай "праграмай" па маніторы?!

Германія — добраўпарадкаваная краіна. Але немцы — не такія ўжо педантычныя і закрытыя, як мы прызвычаіліся іх уяўляць. У нейкай схільнасці да парадаксальнай гульні неспалучальных імкненняў і з'яў у жыцці і мастацтве яны вельмі падобныя да нас. А значыць — знаёмячыся з Германіяй, яе музыкай і культурай, мы не толькі пазнаем новае, але і, як у люстэрку, глядзім на сябе.

**Таццяна РАТАБЫЛЬСКАЯ**

*Ліст ў рэдакцыю*

***У** рэдакцыю "Культуры" прыйшоў ліст ад актывіста Расійскага Пушкінскага таварыства, жыхара г.Люберцы Маскоўскай вобласці Георгія Мікалаевіча Носава (Благавешчанскага). "Глыбокапаважаная Людміла Аляксееўна! З сардэчным хваляваннем звяртаюся да Вас асабіста і праз Вашу газету да ўсіх, хто жыве на зямлі, блізкай мне па маім нараджэнні, — піша Г.М.Носаў. — Першая сусветная вайна раскідала наш род спачатку па Расіі, затым па Савецкім Саюзе. Вытокі роду схаваныя недзе ў забыўлівай нашай памяці, але прозвішча Балагавешчанскі перадаецца з пакалення ў пакаленне. Мой бацька Мікалай Сяргеевіч Благавешчанскі служыў сельскім настаўнікам, потым — свяшчэннікам у Івянцы Мінскай губерні, дзе я нарадзіўся шостым па ліку дзіцём і імя атрымаў у гонар вялікага князя Георгія Уладзімірскага. У 1915 годзе нас эвакуіравалі ў сталіцу данскога казацтва Новачаркаск. Потым жыццё прыпаднесла мне поўны букет рэалій нашай бурнай эпохі... Выключэнне з інстытута за сацыяльнае паходжанне, служба ў прэстыжным вучэбным танкавым палку імя Сталіна (Масква), Лубянка і ссылка ў далёкі сібірскі Каінск, куды са мной паехала і мая юная жонка, прозвішча якой я нашу, удзел у баях Вялікай Айчынай вайны, шлях будаўніка ад радавога рабочага да начальніка трэста "Хімпрамбуд"...***

***На жаль, сустрэч з прарадзімай, з роднай Беларуссю, не выпадала: блізкія аселі стала ў Маскве.***

***Шмат гадоў з'яўляюся членам Расійскага Пушкінскага таварыства. Удзельнічаў ва ўсерасійскім конкурсе сацыяльных навацый і за працу "Горад казак Лукамор'е" быў узнагароджаны дыпломам. Кола інтарэсаў: стварэнне "Лукамор'я" для дзяцей, вяртанне гістарычных дат адпаведна з 1000-гадовай традыцыяй праваслаўнай культуры і навінкі Пушкініяны, малавядомыя шырокаму чытачу. Дапамагаюць мне ў гэтым мае сыны.***

***Шлю вам свой матэрыял "Трыяда ў імя Пушкіна" і буду рады і ўдзячны, калі надрукуеце яго. З пажаданнем творчых поспехаў і дабра — Георгій Мікалаевіч Носаў (Благавешчанскі)".***



Г.М.Носаў.

# ТРЫЯДА Ў ІМЯ ПУШКІНА

## 1. ПАЛТАВА. ПРАЎНУЧКА ПУШКІНА

Вялікі Пушкін і Вялікая Айчынная вайна. Гэтыя, здавалася б, зусім далёкія адна ад адной і ў часавым і ў падзейных адносінах з'явы дзіўным чынам вызначылі напярэдадні двухвяковага юбілею нашага геніяльнага паэта "времен моих связующую нить".

Цярністы шлях вайны для мяне пачаўся з абароны Масквы на тульскіх рубяжах, а ў жніўні 1942 года чырвань сталінградскага пажару асвятляла шлях начнога марша нашай дывізіі з Камышына ў прыволжскія яры-равы, дзе мы "закопваліся" ў пячоры для жорсткай абароны да пачатку агульнага наступлення па акружэнні групоўкі Паулюса. Ну а потым... Потым быў начны штурм прадмесцяў разбуранага, абрабаванага Харкава. Праз пяць дзён пасля бітвы за Харкаў увайшлі ў невялікі горад Валкі. У змроку дагараў будынак гарадской бібліятэкі, наўкола былі раскіданы кнігі. "Божа мой, — падумаў я, — гарыць наша культура". Сярод кніг заўважыў раптам томік Пушкіна з залатым абрэзам старога выдання. Гэта былі казкі і паэмы. Не мог не ўзяць томік з сабой. І ў мінуты кароткага адпачынку чытаў аднапалчанам неўміручыя радкі...

Добра помніцца дзень вызвалення Палтавы. Ля манумента Славы ў гонар перамогі над шведамі — кветкі, абдымкі і слёзы радасці жыхароў горада. Як рэха бітвы 27 чэрвеня 1709 года ў душы адгукнулася пушкінскім: "... но явно счастье боевое служить уж начинает нам".

Падчас адпачынку даведаўся ад старажылаў-выкладчыкаў літаратуры пра Соф'ю Мікалаеўну Данілеўскую, праўнучку А.С.Пушкіна, якая заставалася ў акупаванай Палтаве. З рызыкай для жыцця яна, употай ад немцаў, збірала і ратавала ад яўнай гібелі дзесяткі беспрытульных дзяцей, адкрывала для іх чароўны свет казачнай Пушкініяны.

## 2. ГОРАД КАЗАК — "ЛУКАМОР'Е"

У гэтым годзе спаўняецца роўна 170 гадоў першай публікацыі Пралога да паэмы "Руслан і Людміла". Вядомыя ўсім словы "У лукомор'я дуб зеленый..." сталі своеасаблівай візітнай карткай цудоўных казак паэта. Менавіта ім, па словах Ганны Ахматавай, "воляю лёсу было прадвызначана адыграць ролю маста паміж найвялікшым геніем Расіі і дзецьмі".

Праз усё жыццё пранёс паэт спадчыну дзяцінства.

*С младенчества дух песен в нас горел,*
*И дивное волненье мы познали.*

Ён інтуітыўна адчуваў і разумеў, што ў юным узросце радасць авалодання словам і захапленне казачным светам не толькі развіваюць розум, але і даюць "обвораживающие" эмоцыі шчаслівага быцця.

Творчасць Пушкіна дапамагала і дапамагае духоўна мільёнам людзей. Яна заклікана, натуральна, дапамагаць і сёння нашай будучыні — дзецям, і дапамагаць праз казачнае "Лукамор'е". Казкі, пераробленыя з дапамогай выяўленчых сродкаў, таленту акцёраў і сучаснай тэхнікі ў цудоўную "рэальнасць", з'явяцца адной з новых формаў далучэння "молодого племени" да спадчыны паэта. Наведнік, уваходзячы ў горад казкі, убачыць не асобных яе персанажаў, а цэлае захапляльнае дзейства. "Лукамор'е" будзе прыцягваць дзяцей яшчэ і тым, што будзе даваць ім магчымасць праявіць сябе ў народнай і тэхнічнай творчасці, чытанні і спевах, жывапісе і музыцы, старадаўніх гульнях і вучэбных конкурсах, словам, ва ўсім тым, што будзе ўзбагачаць унутраны свет дзіцяці, ахоўваць яго душу ад уплыву пагібельных спакус гэтага свету.

Больш за дваццаць гадоў таму задуму стварэння "Лукамор'я" падтрымаў Сямён Сцяпанавіч Гейчанка. Усерасійскі конкурс сацыяльных навацый, які адбыўся ў 1991 годзе, адзначыў гэту прапанову-праект прызавым месцам. Потым ухваленне прыйшло ад Пушкінскіх таварыстваў, Міжнароднага Пушкінскага камітэта па правядзенні пушкінскіх святаў паэзіі, Саюза пісьменнікаў і г.д. Да 200-годдзя з дня нараджэння А.С-.Пушкіна Інстытутам генеральнага плана Масквы распрацавана праграма рэканструкцыі мемарыяльных пушкінскіх мясцін, уключаючы дзве зоны дзіцячага адпачынку: пляцоўку па матывах казак Пушкіна каля школы на Старой Басманнай (мяркуемае месца нараджэння паэта) і стварэнне фантана на тэму казак у раёне Чыстапруднага бульвара. А ў музеі А.С.Пушкіна прадугледжваецца адкрыццё пакояў для гульні на сюжэты казак.

Праўда, для дзетвары, якая наведае Маскву ў юбілейны год, усё гэта будзе "кропляй у моры". І зробленыя, нарэшце, сціплыя, але рэальныя крокі для ўвасаблення ў жыццё "Лукамор'я". Дзякуючы энтузіястам на чале з кіраўніком фірмы "Тэатр гісторыі" Аляксеем Афанасавым і пры падтрымцы дырэкцыі маскоўскага парка Сакольнікі створаны куток "Лукамор'е" — пачатковы варыянт будучага горада творчасці і адпачынку для дзяцей. У планах аўтараў завяршэнне да юбілейных урачыстасцяў спецыяльных павільёнаў, якія змогуць "выязджаць" па запрашэнні ў гарады і сёлы Расіі.

З імем Пушкіна ў кожнага з нас асацыіруюцца такія паняцці, як дабро, любоў, справядлівасць. Дык няўжо нам недаступна стварыць да яго слаўнага юбілею казачнае "Лукамор'е" — цудоўны падарунак і паэту і дзецям!

## 3. ДЗЕНЬ, КАЛІ НАРАДЗІЎСЯ ПАЭТ

У 1923 годзе Савецкая ўлада вырашыла змяніць сістэму пераводу датаў са старога стылю ў новы і ўвяла іншыя правілы, што ўстанавілі для любога памятнага дня папраўку таго стагоддзя, у якім адбылася падзея. Без уліку назапашанай да XX стагоддзя розніцы ў часе 13 сутак. Як быццам бы Расія жыла па новым стылі ўсю сваю 1000-гадовую гісторыю. У выніку новых паправак: 8 сутак для XIV стагоддзя, 10 сутак для XVII, 12 сутак для XIX стагоддзя, — Кулікоўская бітва "перайшла" на 16 верасня замест 21-га, вызваленне Масквы — на 5 лістапада замест 8-га, а Барадзінская бітва — на 7 верасня замест 8-га, страціўшы сваю гістарычную першароднасць. Гэтыя папраўкі штучна ўвялі каардынаты часу Расіі ў каардынаты часу еўрапейскіх краін, пазбавіўшы, такім чынам, расійскую гісторыю, не толькі ў падзеях, але і ў асобах, свайго 1000-гадовага традыцыйнага зместу. І цяпер, кажучы словамі А.С.Пушкіна, застаецца толькі вымавіць "здзіўленне наконт таго, што ёсць людзі, якія не маюць ніякага паняцця аб жыцці святога, імя якога носяць ад купелі да магілы". Пушкін, даведайся ён пра тое, што для яго дня нараджэння ці перажытага ім незабыўнага дня Барадзіна ("Меч огненный блеснул за дымною Москвой") устанавілі новыя даты, пазбаўленыя гістарычных каранёў, абавязкова паўтарыў бы свой прысуд: "Невуцтва не паважае мінулага".

Але ж не толькі дні вайсковай славы былі пазбаўлены іх памятных святаў. Былі скажоныя і памятныя дні нашых выдатных дзеячаў, дні, якія мелі для іх, як людзей праваслаўных, свой патаемны сэнс. Непраўдападобным стаў дзень нараджэння геніяльнага Ламаносава, што нарадзіўся ў 1711 годзе на свята Архангела Міхаіла. Успомнім дзень нараджэння Марыны Цвятаевай: "...День был субботний: Иоанн Богослов". Мала было ёй бязвыхадных пакут, дык яшчэ і пазбавілі такога памятнага дня.

Паводле Месяцаслова Імператарскай Акадэміі навук на 1799 год, на чацвер 26 мая прыпадае пераходнае свята Узнясення Гасподня ды яшчэ імяніны апостала Карпа, вучня апостала Паўла. Дата 26 мая па юліянскім календары пры жыцці А.С.Пушкіна лічылася шмат гадоў днём яго нараджэння. З пераходам на новы стыль грыгарыянскага календара ў 1918 годзе дзень нараджэння паэта стаў адзначацца 8 чэрвеня. Ды пасля 1923 года памятная дата была зменена на 6 чэрвеня, гэта значыць, паводле традыцыі старога стылю, на 24 мая, на дзень, які ў 1799 годзе не меў ніякіх адносін ні да свята Узнясення, ні да памяці апостала, ні да самога дня нараджэння паэта.

У знакамітага продка (устаноўлена А.А.Чаркашыным) Пушкіна дабравернага князя Аляксандра Неўскага быў дэвіз: "Не ў сіле Бог, а ў праўдзе!" Сілай можна дыктаваць грамадству не прызнаваць той альбо іншы факт духоўнага жыцця народа, але рабіць гэта можна толькі да пары да часу. Потым надыходзіць час справядлівасці. Пачатак высакароднаму выпраўленню становішча з памятнымі датамі пакладзены Федэральным Законам аб днях вайсковай славы, што быў прыняты 13 сакавіка 1995 года. Закон вяртае слаўным датам дзяржавы іх сапраўдны першапачатковы змест, вызначае на самым высокім афіцыйным узроўні справядлівы падыход пры ўстанаўленні і вяртанні народу памятных святаў.

Пагэтаму ёсць спадзяванне — спадзяванне ва ўсіх адносінах заканамернае! — што да двухвяковага юбілею А.С-.Пушкіна будзе вернуты дзень яго нараджэння — 8 чэрвеня, дзень, які мае той жа гістарычна-праваслаўны змест, што і 26 мая 1799 года.

Сімвалічна па-свойму, дарэчы, што ў 2000-м годзе Узнясенне Гасподне будзе святкавацца па новым стылі 8 чэрвеня — 20 мая па старым стылі, як і ў год нараджэння А.С.Пушкіна.

**Г.М.НОСАЎ,**
**член Расійскага Пушкінскага таварыства**
*г.Люберцы, Маскоўская вобласць*

# "АХ, ЛЮБОВЬ, ЛЮБОВЬ..."



**К**нігу з гэткай інтрыгуючай назвай я ўбачыў нядаўна, калі гасцяваў у свайго колішняга аднакурсніка (адзначалі дзень нараджэння яго жонкі). Мой сябра — вялікі аматар паэзіі, асабліва з гумарыстычным ухілам, любіць чытаць вершы падчас розных сустрэч. Тое ж было і на гэты раз. "І ў наш не вельмі вясёлы час пішуцца вясёлыя вершы. Вось паслухайце", — звярнуўся ён да нас. І стаў чытаць невялікую кніжачку ў сіняй вокладцы...

*— Цветы? Кому?*
*— Жене, не свату.*
*— День ангела?*
*— А как же!*
*— Не забываешь эту дату?*
*— Забыл однажды...*

Жартаўлівы верш быў адпаведна ўспрыняты. Вясёлую рэакцыю выклікалі і наступныя радкі:

*— Я пьян? Сопьюсь? Мне всё равно.*
*Супруга пилит. Жизни нет.*
*— И долго пилит?*
*— Двадцать лет.*
*— Видать, ты — крепкое бревно.*

Ды і некаторыя іншыя вершы, у прыватнасці, такі:

*— Любовь моя, ты — жизнь моя!*
*Поверь мне, это не слова...*
*— Тебе охотно верю я,*
*Но знай, любовь всегда права!*

Кніжка, словам, зацікавіла, і я папрасіў сябра даць мне яе пачытаць. Прачытаў і вырашыў падзяліцца сваім уражаннем з чытачамі "Культуры". І вырашыў так, скажу шчыра, вось з якой прычыны.

Справа ў тым, што мяне (і думаю, не толькі мяне, бянтэжыць і засмучае тое, як сёння пішуць, спяваюць, гавораць з блакітнага экрана "пра гэта", гэта значыць пра каханне, пра адносіны паміж мужчынам і жанчынай. Малады пісьменнік так распавёў пра свае эратычныя прыгоды, што сам просіць: "Толькі не кажыце маёй маме" (менавіта так называецца яго зборнік). Уключаеш тэлевізар, ідзе маладзёжная перадача, і раптам чуеш: "На тебе, как на войне, на тебе, как на войне!.." Гэта ён звяртаецца да яе. А ў другой перадачы — яна да яго: "Твой саксофон! Твой саксофон!" Аж млее эстрадная дзіва ад перапоўніўшай яе жарсці. І гэта не асобныя выпадкі. Ледзь не ўся папса круціцца сёння вакол гэтага самага "саксафона".

Памятаю, як некалькі гадоў таму Янка Брыль не вытрымаў і выступіў з артыкулам, які так і называўся: "Як пра цябе пішуць, каханне?!" А што сказаў бы ён сёння, калі б узяўся за пяро?

Дзякаваць Богу, ёсць прыклады і іншага кшталту: пішуць пра каханне і паэтычна, і тактоўна, і па-народнаму мудра. Сюды можна аднесці і названую ўжо кніжку "Ах, любовь, любовь... Амурные диалоги" (такая яе поўная назва), што выйшла ў маскоўскім выдавецтве "Спарк". Належыць яна пяру Вячаслава Сысоева. Як я даведаўся з прадмовы да зборніка, аўтар яго — не навічок у паэзіі і да гумарыстычнага жанру, які ён жартаўліва абазначыў як "амурныя дыялогі", прыйшоў не адразу, паступова, што ў выніку станоўча адбілася на ідэйна-мастацкай якасці яго мініяцюрных, усяго ў чатыры радкі, дасціпных і таму надзвычай чытабельных "дыялогаў".

Кніжка складаецца з наступных чатырох раздзелаў: "Люби не люби, чаще взглядывай", "Милые бранятся, только тешатся", "Муж и жена — одна сатана", "Ах, любовь, любовь..." У кожным раздзеле знойдзеш цікавыя, запамінальныя радкі. Але вось што асабліва характэрна. Які б бок тэмы — тэмы кахання і ўзаемаадносін мужчыны і жанчыны — ні браў паэт, якімі сродкамі ні вырашаў яе, — ён нідзе не збіваецца на гэтую самую "сакса-секса-фонію". Ёсць у яго і гуллівы жарт, і востры дасціп, і лёгкая, з адваротным бокам іронія, і горкі сарказм, але вось бульваршчыны, пошласці, тым больш пахабшчыны ў яго "амурных дыялогах" няма. Што і надае вартасць кнізе.

У сваім пасляслоўі да зборніка крытык Л.Ханбекаў піша, што, нягледзячы на вонкавую гарэзлівасць і задзірыстасць выбранага жанру, Вячаслаў Сысоеў імкнецца "выйсці на добрае, вечнае, на тое, што трывожыць розумы і сэрцы". І гэта сапраўды так, у гэтым я пераканаўся асабіста як чытач. Раю і другім спытаць у кнігарні ці бібліятэцы кнігу "Ах, любовь, любовь..."

**Ігар ДЗЕМЯШКЕВІЧ,**
**выкладчык мовы і літаратуры**
*Мінск*



ЯН ТАПАРОЎСКІ

# СПРАВА АБ ЗАБОЙСТВЕ ІЕГУДЫ ПЭНА

*(Працяг. Пачатак у "Культуры" ад 10.10. 98 г., № 39.)*

**ПА ЛЕКАЛАХ ПАЛІТПРАЦЭСУ: КАТАВАННІ І САМААБГАВОР**

Як успамінае Фаня Пераплётчык, вытрымкі з ліста якой былі прыведзены ў пачатку гэтага расследавання, арыштаваныя па падазрэнні ва ўдзеле ў забойстве Бак і Файнштэйн не вытрымалі катавання і абгаварылі сябе. Пра гэта ёй, Фані, расказаў яе аднакласнік, — той самы Бак, калі ён выйшаў з турмы пасля таго, калі сапраўдныя забойцы былі асуджаны.

У гэтым лісце цікавая не толькі інфармацыя аб катаваннях, але і прозвішча другога арыштаванага, што абгаварыў сябе, як сцвярджае Бак, пад прымусам, — нейкі чалавек па прозвішчы Файнштэйн.

Вось спіс тых Файнштэйнаў, што праходзілі па "Справе Пэна": Файнштэйн Абрам, Файнштэйн Неха, Файнштэйн Рувім, Файнштэйн Хаім-Шлёма, Файнштэйн Лея Гірш-Янкелеўна, Файнштэйн Залман, Саламонік-Файнштэйн Рыва. А ўсяго па абвінавачванні ў здзейсненым злачынстве з 5 па 17 сакавіка 1937 года было арыштавана дзевяць чалавек (сярод іх Саламонік Мордхай — муж Рывы Файнштэйн і Аліфсон Міхаіл Яфімавіч — жаніх Нехі Файнштэйн, за якога прымалі яго жыхары маленькага Віцебска. Але — па яго асабістай заяве на судзе — ён толькі знаёмы Файнштэйн Нехі). Арыштаваная сям'я знаходзілася з забітым — мастаком Іегудай Пэнам — у блізкім сваяцтве. Справа ў тым, што Файнштэйн Лея з'яўлялася яго стрыечнай сястрой. А яе дочкі Неха і Рыва, сыны Абрам, Хаім-Шлёма і Залман — адпаведна пляменніцамі і пляменнікамі. Адзначым, што на момант арышту самаму старэйшаму — главе сям'і — Файнштэйну Рувіму Зелікавічу было 59 гадоў, а самой малодшай — яго дачцэ, той, якую абвінавацяць у гэтым зверскім забойстве, Несі, было 18 гадоў. Усе арыштаваныя ўтрымліваліся ў Віцебскай турме. Але пакуль нас цікавіць толькі адзін з іх — Файнштэйн, той, які мог бы мець дачыненне да фарбаў і пэндзля. У абвінавачвальным заключэнні дадзены кароткія звесткі аб падазраваемых. Пад нумарам 9 лічацца: *Файнштэйн* Залман Рувімавіч, 1909 г. нараджэння, яўрэй, беспартыйны, з рабочых, да арышту працаваў *жывапісцам* (курсіў мой. — **Я.Т.**) у арцелі "Кастрычнік" у г.Ленінградзе, пражываў у Ленінградзе па Карнілаўскай вул., 23. А гэта гаворыць пра тое, што сын Файнштэйн Лei, пляменнік Іегуды Пэна, мог закончыць Віцебскую мастацкую вучэльню і мог быць тым чалавекам, пра якога згадвала Фаня Пераплётчык. Але ён у тым годзе жыў у Ленінградзе. Ёсць яшчэ адзін хлопец сярод Файнштэйнаў, які можа аказацца тым, каго мы шукаем, — гэта Файнштэйн Абрам, бо ў пратаколах выязнога судовага пасяджэння прозвішча Бак упамінаюць ён, яго сястра Неха і суседка Пэна. Яны паказваюць, што ў гэты дзень Бак распальваў печку ў кватэры Пэна. Менавіта ён, Абрам, быў арыштаваны першым з усёй сям'і 5.3.37. А потым Неха — 11.3.37. А затым ужо і ўся сям'я. Залман жа быў арыштаваны адным з апошніх. Ці не з Абрама выбівалі паказанні на ўсю сям'ю?

Можна толькі здагадвацца, што адчувала 18-гадовая Неха — дзяўчына з яўрэйскай сям'і ў невялікім гарадку, на якую палі падазрэнні ў жахлівым забойстве, а з імі — зняволенне і допыты. Неха падпісала "прызнанне". Як быццам пад капірку такія ж "прызнанні" падпісалі і астатнія члены сям'і. Але, па схеме палітпрацэсу, заўсёды камусьці адводзіцца роля арганізатара і ініцыятара, а камусьці і выканаўцы каварных планаў. Прачытайце ўважліва пратаколы вочных ставак і вы выявіце моўныя штампы следчых — тых самых, якія "шылі" палітычныя працэсы. (Звяртае на сябе ўвагу, што справу аб забойстве расследавалі не следчыя пракуратуры, якой трэба было расследаваць забойства, а следчыя НКВД — прычым не супрацоўнікі міліцыі, якая ў той час была аб'яднана з дзяржбяспекай, а следчыя — афіцэры дзяржбяспекі.) Пад іх дыктоўку пісалі "паказанні члены сям'і Файнштэйн". На ролю "арганізатара і ініцыятара" вырашылі выбраць Файнштэйн Лею-Гірш. Гэта пацвярджае абвінавачае заключэнне.



І. Пэн. Аўтапартрэт.

У ходзе следства, якое праводзіў віцебскі гараддзел НКВД пад кіраўніцтвам пам. пракурора рэспублікі Мінкіна, 21 сакавіка 1937 года васьмі членам сям'і Файнштэйн было прад'яўлена абвінавачванне ў тым, што яны "*па змове* і *пад кіраўніцтвам* Леі Файнштэйн *арганізавалі* бандыцкую *групу* (курсіў мой. — **Я.Т.**), з мэтай апрацоўкі мастака Пэна". Абвінавачае заключэнне падпісалі начальнік віцебскага ўпраўлення НКВД лейтэнант дзяржбяспекі Кауфман і начальнік віцебскага гараддзела НКВД БССР старшы лейтэнант дзяржбяспекі Гарбаленя.



І. Пэн. "Пекар".

**ІНФАРМАЦЫЯ ДА РОЗДУМУ**

Каб уявіць сабе, на якім узроўні з самага пачатку разглядалася "Справа Пэна" (не лічачы, што потым яна разглядалася ў Вярхоўным судзе БССР), трэба звярнуць увагу на званні начальнікаў, якія падпісалі абвінавачае заключэнне. Званні, здаецца, самыя незайздросныя — лейтэнанцкія. Але вось, напрыклад, Віктар Сувораў у кнізе "Ачышчэнне" з гэтай нагоды піша, што званні чыноў ДУДБ (Дзяржаўнага ўпраўлення дзяржбяспекі НКВД. — **Я.Т.**) не адпавядалі армейскім званням. Напрыклад:

"Малодшы лейтэнант ДБ — тры кубікі, як армейскі старлей.

Капітан ДБ — тры шпалы, як палкоўнік.

Маёр ДБ — гэта ўжо вышэйшы камандны састаў. Гэта ўжо адзін ромбік, як у камбрыга.

Камісары ДБ 3-га, 2-га і 1-га рангаў адпавядалі камкору другога і першага рангаў.

Крыху пазней было ўведзена самае высокае чэкісцкае званне — Генеральны камісар ДБ. Гэта — вялікія зоркі, як у маршала Савецкага Саюза, толькі не на пунсовых пятліцах, а на сініх".

Значыць, старшы лейтэнант Гарбаленя на самой справе быў маёрам, а лейтэнант Кауфман — ніяк не ніжэй за капітана.

(Далей у нашым перакладзе публікацый на беларускую мову мы апускаем пратаколы вочных ставак, гэтаксама, як і пратакол абвінавачага заключэння. — **Рэд.**)

**ПАСЛЯ ВОЧНЫХ СТАВАК**

Такім чынам, услед за "Пратаколам агляду месца злачынства, здарэння, трупа забітага гр-на гор.Віцебска па Гогалеўскай вуліцы ў доме № 1 Пэна, Юлія Маісеевіча" ўпершыню ўбачылі свет наступныя дакументы "Справы Пэна": пратакол вочнай стаўкі Файнштэйна Абрама Рувімавіча з яго бацькам — абвінавачаным Файнштэйнам Рувімам Зелікавічам; пратакол вочнай стаўкі паміж абвінавачаным Файнштэйнам Абрамам Рувімавічам і яго маці, абвінавачанай Файнштэйн Леяй Гірш-Янкелеўнай; пратакол вочнай стаўкі паміж абвінавачанымі Файнштэйн Нехай Рувімаўнай і яе братам Файнштэйнам Абрамам Рувімавічам.

На вочных стаўках Абрам і Неха прызналіся ў тым, што забілі свайго дзядзьку мастака Іегуду Пэна з той мэтай, каб завалодаць яго грашыма і іншымі каштоўнасцямі, а таксама паведамілі, што ініцыятарамі і арганізатарамі гэтага забойства былі іх бацька і маці.

Прызнанні падсудных мяне насцярожылі. Па розных прычынах. Але галоўнае — на вочных стаўках ім не было прад'яўлена ніводнага доказу. Але я ўсё-ткі — журналіст і не знаўца крымінальнага працэсуальнага кодэкса. Таму я папрасіў спецыялістаў пракаментаваць новыя дакументы — пратаколы вочных ставак. Для "чысціні" эксперымента я прапанаваў спецыялістам прачытаць дакумент, не знаёмячы іх з наступнымі, каб яны не ведалі, якія крокі далей зробяць следчыя НКВД і якія доказы і абвінавачанні будуць фігураваць у далейшым, напрыклад, у абвінаваўчым заключэнні. Такім чынам, нібы праводзілася паўторнае расследаванне.

**КАМЕНТАРЫЙ СПЕЦЫЯЛІСТА**

**Ізраільскі эксперт-крыміналіст N** (у мінулы раз мы ўжо публікавалі каментарый сп. N, але як і раней, не называем яго прозвішча, бо, у сувязі са спецыфікай працы, яно не павінна абнародавацца):

*"Калі гаварыць аб пратаколах вочных ставак, то кідаецца ў вочы аднатыпнасць слоўных набораў ва ўсіх абсалютна запісах і іх штучнасць. Але цікавы і другі момант (незалежна, пад якім уціскам і ў які час гэта было напісана — са слоў абвінавачаных ці імі асабіста, да ці пасля вочных ставак): абсалютная судовая неэтычнасць таго, што адбывалася на вочных стаўках, калі, вядома, словаспалучэнне "судовая этыка" прымянімая да працэсу 1937 года. Але паколькі мы разглядаем справу не палітычную, а нібыта крымінальную, будзем лічыць, што ў такім выпадку слова "этыка" ўсё-ткі прымянімае.*

*І вось у чым заключаецца "судовая неэтычнасць". У Ізраілі, напрыклад, існуе палажэнне (на жаль, не магу зараз сказаць дакладна, якім чынам яно замацавана заканадаўча, але на практыцы гэта захоўваецца цвёрда), пры якім члены адной сям'і не могуць даваць паказанні адзін на аднаго, гэта значыць, суд гэтыя паказанні проста не прыме. Напрыклад, калі жонка замешана ў гандлі наркотыкамі, дык дапытваць мужа з тым, каб ён даў паказанні на жонку, не ўяўляецца магчымым згодна з судовай этыкай. А калі гэта адбудзецца, то суд гэтыя паказанні проста не прыме. Не прыме і паказанні дзяцей супраць бацькоў, і бацькоў супраць дзяцей — і гэтак далей. Апрача тых выпадкаў, калі адзін з бакоў з'яўляецца пацярпелым, напрыклад, у выпадку згвалтавання псіхапатамі-бацькамі ўласных дзяцей. Гэта практычна адзіны выпадак, пры якім паказанні могуць "працаваць". Наколькі вядома, такой судовай этыкі прытрымліваюцца ў любой нармальна развітай краіне. На жаль, гэтага не скажаш аб пратаколах вочных ставак сям'і Файнштэйн, у якіх следчы задаваў дзецям пытанні аб дачыненні іх бацькоў да забойства Іегуды Пэна — і наадварот.*

*Але тым не менш, калі мы хочам заставацца ў рамках крыміналістыкі, то адзінае пытанне, якое мы можам задаць, такое: што з таго, што магло быць зроблена ў ходзе следства, не было зроблена? Тут я хачу вярнуцца да пытання аб размеркаванні крыві па групах — аналізу крыві, гэта значыць, яшчэ раз звярнуць увагу на тыя плямы, якія ў пратаколе агляду месца здарэння былі названы "крывавымі плямамі". Дык вось, першыя доследы па разбіўцы крыві на групы былі зроблены ў 1900 годзе, і ў 30-я гады гэта было ўжо зусім руціннай справай. Мы можам абвінаваціць следства ў непраўдзенні такой экспертызы.*

*Другі момант тычыцца прыладаў забойства. Незразумела, чаму не была праведзена (прынамсі ў прадстаўленых мне дакументах адказу на гэта пытанне я не знайшоў) экспертыза "нажа і сякеркі", а менавіта, якому дому — ахвяры ці патэнцыяльнага забойцы — належаць гэтыя прылады забойства. Правесці гэтую экспертызу было вельмі проста. Але ёсць і трэці вельмі важны момант: у дакументах нічога не гаворыцца пра паўторнае абследаванне месца злачынства. На жаль, не магу сказаць, якая была практыка тых гадоў. Але на сённяшні дзень любое месца здзяйснення забойства абследуецца мінімум двойчы. Напрыклад, мы прыходзім на месца здарэння, дапусцім, на кватэру. Працуем там нейкую колькасць гадзін. Людзі стамляюцца, увага прытупляецца, часцяком проста няма дастатковага асвятлення, а калі асвятленне штучнае, то ўзнікае неабходнасць нешта праверыць пры дзённым святле. Па гэтых і іншых прычынах мы заўсёды вяртаемся на месца здарэння як мінімум два разы. Часта вельмі сур'ёзныя доказы бываюць выяўлены якраз не ў першы, а ў другі раз ці нават падчас трэцяга агляду месца злачынства. Да прыкладу, мы ведаем, што прылада забойства знаходзіцца недзе побач, але адразу яе выявіць вельмі цяжка. І пакуль вы не аблазіце ўсе кусты вакол дома і ўсе дахі, куды яе маглі закінуць, — не знойдзеце. А на гэта патрабуецца не адзін дзень.*

*Ёсць яшчэ адна надзвычай важная рэч, якая павінна быць праведзена ў ходзе следства, але ў дакументах пра гэта нічога не гаворыцца. Гэта падрабязнае — у дэталях — і запратакаліраванае, а на сённяшні дзень знятае яшчэ і на відэа "праігрыванне з удзелам падазраваемых усяго сцэнарыя злачынства".*

*Для чаго гэта патрэбна? Я магу назваць выпадкі, што мелі месца і тут, у Ізраілі, калі*

**Тайны 37-га года**

*людзі па нейкіх прычынах бралі віну на сябе — прызнаваліся ў злачынстве, якога яны не здзяйснялі. І вось пры "праігрыванні сцэнарыя злачынства" забойца, прыехаўшы на месца, нават не ведаў, у які дом ісці. Гэта "праігрыванне" з'яўляецца адным з апошніх этапаў следства, прычым за гэта адказвае навукова-тэхнічная служба, якая абавязана "праіграць сцэнарый злачынства" і зафіксаваць яго. У дадзеным жа выпадку, калі па справе праходзілі дзевяць чалавек (Неха і Абрам — як выканаўцы), трэба было правесці гэта расследаванне з кожным з падазраваемых асобна, а потым з усімі разам. І следству ўжо ў той час гэта было зусім пад сілу.*

*Крыміналістыка існуе не толькі для таго, каб дапамагчы следству злавіць злачынцу, яна існуе і для таго, каб навукова даказаць сувязь паміж патэнцыяльным злачынцам, ахвярай, месцам злачынства і прыладамі злачынства. А калі гэта навукова не даказана і ўся справа пабудавана толькі на слоўных доказах, на слоўных абвінавачаннях і подпісу абвінавачанага ў тым, што ён прызнаецца ў злачынстве, — гэта проста "фількіна грамата".*

*(Працяг будзе.)*

# ПРЫНЦЭСА СМЕРЦЬ ПРЫЙШЛА ЗА АРФЕЕМ

***Гэта быў герой майго кінадзяцінства, кумір маіх кінамрояў... Ды і не толькі маіх. Упершыню я ўбачыў Марэ ў 50-я гады ў карцінах "Небяспечнае падабенства" П.Біёна і "Кармэн" Крысціян-Жака. З таго часу рамантычны і бліскучы, прыгожы і мужны, ён часта з'яўляўся на савецкіх экранах, прымушаючы ўсхвалявана біцца глядацкія сэрцы...***

## JEAN MARAIS

Дык хто ж ён, гэты чалавек-легенда? Атлет сілы духу? Рыцар без страху і папроку? Высакародны кавалер-каханак? Абаронца прыніжаных і абражаных? І першае, і другое, і трэцяе... Ягоныя кінавобразы прымалі ўсе народы і краіны свету, бо ён увабраў у сябе лепшыя рысы агульначалавечага характару "станоўчага" героя.

Праз месяц яму споўнілася б восемдзесят пяць. Жыццё доўгае і, наважваюся думаць, шчаслівае. Якой асобай ён быў? Аптыміст, летуценнік, фаталіст — паводле ягонага ўласнага прызнання. Музыка і прыгожы пейзаж выклікалі ў яго захапленне. Акрамя кіно і тэатра, ён страсна любіў жывапіс. З літаратуры — Дастаеўскага, Стэндаля і Камю. З мастакоў — Вермеера, Манэ, Ван Гога і Пікасо. З фільмаў — пратазанаўскі "Нашчадак Чынгіс-хана". З асалодай слухаў музыку Баха і Моцарта, спевы Азнавура і Піяф...

... Ён нарадзіўся пад знакам Стральца ў Шэрбуры. Іншы раз журналісты з'едліва ўзгадвалі страчаную палову ягонага прозвішча — Марэ-Вілен. Вілен у перакладзе — кепскі, паскудны, карацей, нікчэмны. У адказ Жан Марэ толькі ўсміхаўся: прычым тут я? Яшчэ ягоны бацька, урач Альфрэд Марэ-Вілен "згубіў" яе на сваіх візітоўках...

Біяграфія французскай "зоркі" непарушна звязана з тэатрам і кіно. З самага маленства марыў стаць акцёрам. І ён ім стаў. Думка пра іншую прафесію ніколі не ўзнікала. Жывапіс усё ж знаходзіўся на другім плане: вучыўся ў акцёрскай школе Шарля Дзюлена, дзе і пазнаёміўся з паэтам, мастаком, драматургам і рэжысёрам Жанам Както, які стаў ягоным адзіным сябрам на ўсё жыццё.

Здымацца ў кіно пачаў рана, але першай сур'ёзнай роляй лічыў вобраз дона Хазэ ў "Кармэн". Гэта было ў 1943 годзе. А пасля карціны "Адвечнае вяртанне", дзе ён зняўся разам з любімым сабакам па мянушцы Мулук, Марэ прачнуўся знакамітым.

З тае пары і пачалося: кінематограф, тэатр, жывапіс. Усё жыццё. Да самага скону....

Іграў без дублёраў. Шмат разоў ламаў сабе косткі. І ўсё той жа прыпеў: "Я не баюся. Не, я не хачу дублёра. Я хачу паспрабаваць гэта на сваёй уласнай скуры..." Яго называлі "чалавекам, які падманвае Смерць". Безумоўна так, бо ён ледзь не загінуў на здымках "Руі Блаза" і "Адвечнага вяртання"...

У 60-я гады наведаў СССР. Я бачыў Жана Марэ толькі аднойчы — у Ленінградзе, у кінатэатры "Великан" у 1961 годзе падчас тыдня французскага кіно. Высокі і стройны, блакітныя вочы, светлы шатэн. Увесь час усміхаўся...

Вярнуўшыся дадому, Марэ сказаў: "Я ўражаны славянскай гасціннасцю, улюбёны ў гэтых людзей... Я не займаюся палітыкай, але мая паездка засведчыла, што савецкія людзі не здольныя на нянавісць і зласлівасць".

Кажуць, што ён быў шчырым, рашучым, гранічна патрабавальным у крытэрыях прыстойнасці. На пытанне, ці прынесла яму славу прафесія? — адказаў: "Славу? Не трэба перабольшваць. Магчыма, вядомасць. Але гэта яшчэ не слава. Слава належыць палкаводцам, вучоным, пісьменнікам, паэтам, кампазітарам, творы якіх застаюцца нашчадкам. Творчасць акцёра — эфемерная. І, ведаеце, мне гэта падабаецца. А на славу мне напляваць..."

Жан Марэ не палохаўся старасці. Працаваў, не ведаючы стомы, да скону свайго веку. Ставіў спектаклі, іграў, пісаў пейзажы і нацюрморты, займаўся керамікай. Пісаў дзіцячыя казкі і сам іх ілюстраваў. І нават запісаў на кружэлку цыкл рамансаў на вершы Жана Както.

Такім прывабным, добрым, усмешлівым, разумным мы яшчэ нядаўна бачылі Жана Марэ ў ягоным загарадным маёнтку ў Марн-ля-Какет... Па тэлебачанні...

Для мяне лепшая роля Жана Марэ ў кіно — роля Жака Сежэста — Арфея ў фільме Ж.Както, у якім старажытны міф таленавіта перанесены ў сучаснасць. Памятаеце? Както распавёў сваю, сённяшнюю версію міфа пра Арфея. "Паэт і свет" — вось як можна было б назваць гэтую карціну, у якой герой Жана Марэ сутыкаецца адзін на адзін з "вечнымі" ісцінамі: Каханне. Смерць. Бессмяротнасць. Талент. Паэзія. Мастацтва...

Жан Марэ спазнаў амаль усе гэтыя ісціны. Апошняй ісцінай сталася ягоная Смерць. Перагорнута яшчэ адна старонка легендарнага французскага кіно. Засталася бессмяротнасць: кінастужкі, успаміны, кнігі, жывапіс, памяць.

"Я прыйшоў сюды, на зямлю таму, што я — цікаўны, і неўзабаве, сыграўшы нейкую ролю, вярнуся назад...", — пісаў Жан Марэ ў сваёй аўтабіяграфічнай кнізе "Чатыры ісціны" ("Mes quatre verités"). Сваю ролю акцёр сыграў бліскуча і вярнуўся назад, пакінуўшы пасля сябе Міф, надзвычай прыгожы, — як Арфей...

**Барыс КРЭПАК**

***"Я помню толькі, што пачаў задыхацца і сеў у ванну. Потым памятаю, як мяне выцягнулі і прывезлі ў бальніцу. Было вельмі балюча дыхаць". Гэта былі апошнія словы Жана Марэ за дзень да смерці, у нядзелю... У панядзелак раніцай ён памёр...***

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон/факс: (017) 276-94-66

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3237.

Падпісана ў свет 12.11.98. у 16.30.
Замова 6600

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**